
XVII „БЯЗМЕЖЖА”→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Рэжысёр Тамаш Ляшчынскі→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 52 (3059) Год LIX | Беласток, 28 снежня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Спектакль «Бежанцы» ў Гайнаўскім белмузеі

**Тэатральны гуртк пад мастацкім наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц, які дзейнічае ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, падрыхтаваў новы спектакль «Бежанцы». Паўстаў ён на падставе тэкстаў кніжкі «Бежанцы» Бажэны Дзем'янюк, выдадзенай у 2005 годзе, публікацый на сайце «biezenstwo.pl» і фрагментаў тэкстаў кніжкі «Бежанства 1915 года», выдадзенай у 2000 годзе Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва». Ян Максімюк пераклаў тэксты на падляшскую мову беларусаў, на якой па-акцёрску выступілі вучаніцы Гайнаўскага белліцэя Магдалена Гаўрылюк і Марыя Краўчык ды вучні Бельскага белліцэя Якуб Мацяюк і Міхал Скарбіловіч, якія падрыхтавалі таксама музычную аранжацыю. Іаанна Стэльмашук-Троц з'яўляецца мастацкім інструктарам юных акцёраў і рэжысёрам спектакля «Бежанцы», якога прэм'ера прайшла 14 снежня ў кіназале Гайнаўскага белмузея.**


Магдалена Гаўрылюк


Тэатральная група (злева: Магдалена Гаўрылюк, Марыя Краўчык, Якуб Мацяюк і Міхал Скарбіловіч) дзейнічае ў Гайнаўскім белмузеі пад мастацкім наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц (справа)

Спектакль «Бежанцы» гэта расказ пра нашых беларусаў-сялян, якія пакінулі амаль увесь свой дабытак на радзіме і падаліся ў далёкую дарогу, з якой многія з іх не вярнуліся. Маладыя акцёры паказалі як жыхары нашых вёсак успрымалі страх, хваробы, смерць, ваенную завіруху, неспадзяваны выезд з невялікай колькасцю маёмасці і разлуку з бацькаўшчынай. Белліцэісты ўвасобіліся ў сваіх продкаў і паказалі як яны жылі і думалі ў экстрэмальных абставінах.

— Кніжку «Бежанцы» я прачытала некалькі гадоў назад. Зрабіла яна на мне вельмі вялікае ўражанне. Я дала чытаць яе знаёмым і пачала цікавіцца падзеямі бежанства. У 2015 годзе міне 100 гадоў з часу, калі нашы жыхары падаліся ў бежанства. Мы загадзя рашылі адзначыць гадавіну тэатральнай пастаноўкай. Мы паказалі нашую гісторыю такой, якой яна была. Белліцэісты, што сёння запрэзентаваліся на сцэне, найлепшыя з найлепшых, — сказала Іаанна Стэльмашук-Троц. — Мы прадставілі аўтэнтычныя лёсы сям'і Анастасіі і Андрэя з Плёсак, якія былі запісаны ў кніжцы «Бежанцы», але да іх дабавілі таксама лёсы іншых нашых жыхароў у Расіі і стварылі супольны лёс беларусаў у бежанстве. Рыхтуючы спектакль, карысталіся мы ўступам да кніжкі «Бежанцы», які напісаў айцец Рыгор Місіюк, а таксама матэрыяламі, якія даступныя на сайце «biezenstwo.pl». На гэтым сайце знаходзяцца таксама тэксты кніжкі «Бежанства 1915 года», якой рэдактарам з'яўляецца Віталь Луба. Мы пакарысталіся таксама іх фрагментамі. Спадарыня Бажэна Дзем'янюк запісвала на вёсках размовы з бежанцамі і напісала кніжку «Бежанцы» на польскай мове, а мы пра бежанства хацелі гаварыць па-свойму і таму папрасілі Яна Максімюка зрабіць пераклад на нашую мову.

Белліцэісты ігралі па-акцёрску і ўдала патрапілі перадаць атмасферу бежанства. Паказалі жыццё на бацькаўшчыне да надыходу ваенных дзеянняў, атмасферу вайны, выезду, жыцця ў адлеглых месцах Расіі, рэвалюцыйнай завірухі, вяртання дамоў і выжывання пасля вяртання з бежанства. Простае, а адначасна трапнае сцэнічнае афармленне, адпаведныя вопраткі акцёраў, музыка і перш за ўсё добрая і вельмі эмацыйна ангажаваная ігра белліцэістаў далі магчымасць паказаць незвычайны трагізм бежанцаў. Выступленні на падляшскай дыялектнай мове былі аўтэнтычнымі і блізкімі публіцы, якую саставілі перш за ўсё жыхары Гайнаўшчыны.

— Я вельмі моцна ўзрушылася, — заявіла пасля спектакля Ева Мароз-Кэчынская з Новага Беразова, якая прыбыла на прэм'еру разам з мужам і сынамі. — Я размаўляла ўжо са сваімі сынамі пра бежанства і рашыла прывезці іх, каб пабачылі спектакль і лепш пазнаёміліся з нашай гісторыяй.

— У мяне самыя лепшыя ўражанні ад спектакля. Цудоўна выступілі белліцэісты, а гледзячы на выступаючых, у мяне нават слязінка пацякла, — заявіў былы віцэ-дырэктар Гайнаўскага белліцэя Аляксандр Лаўрыновіч.

Метадыст па навучанню беларускай мовы Іаланта Грыгарук таксама ў захапленні ад выступаў белліцэістаў. Чарговая прэзентацыя спектакля «Бежанцы» была запланаваная на наступны дзень у Гайнаўскім белмузеі, для гайнаўскіх белліцэістаў і іх настаўнікаў, а дзве пастаноўкі мелі адбыцца ў Бельскім доме культуры. Першым стаў віншаваць маладых акцёраў і іх тэатральнага інструктара дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

— Нашыя акцёры чарговы раз паказалі прафесійнасць. Спектаклем «Бежанцы» мы распачынаем адзначаць сотую гадавіну бежанства, — заявіў Тамаш Ціханюк, які павіншаваў акцёраў.

Дэпутат Сейма РП Яўген Чыквін сказаў пра планы адзначэння сотай гадавіны бежанства на Святой Гары Грабарцы 19 жніўня 2015 года падчас святкавання Праабражэння Гасподняга. Паведаміў ён, што ўжо размаўляў з мітрапалітам варшаўскім і ўсяе Польшчы Савам пра будову часоўні на Грабарцы, прысвечанай бежанцам.

— Добра, што гаворым, а нават паказваем пра бежанства. Шкада, што робім гэта так позна, калі паўміралі ўжо сведкі падзей. Гэта павінна зрабіць маё пакаленне, калі бежанцы яшчэ жылі, — заявіў былы настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі. — Будова часоўні гэта добрая справа, але чаму будаваць яе на Грабарцы, дзе і так многа святыняў? У нас ёсць свой Беларускі музей, беларускі цэнтр і справай беларусаў павінна быць узвядзенне каплічкі на прымузейнай плошчы, бо Гайнаўка гэта цэнтр тэрыторыі, адкуль нашыя продкі выязджалі ў бежанства.

Пасля спектакля вучні адказвалі на пытанні журналістаў.

— Выступаючы ў спектаклі мы хацелі прадставіць эмоцыі нашых продкаў, якія пакідалі свае хаты, гаспадаркі і падаваліся ў Расію. Паказваем хваляванні бежанцаў, якія разлучаліся з блізкімі ім асобамі, галадалі. Нам спачатку складана было зразумець іх эмоцыі, але, пазнаёміўшыся з гістарычнымі падзеямі, мы зразумелі трагізм бежанства. Думаем, што сёння ўдалося нам перадаць эмоцыі публіцы, — расказвалі члены тэатральнага гуртка.

— Мы выступаем вельмі эмацыйна, бо паказваем вялікія эмоцыі бежанцаў, якіх спасцігла гора. Падчас рэпетыцый мы вучыліся іграць свае партыі на сцэне і стараліся выступаць эмацыйна, але толькі сённяшняя прэм'ера вельмі моцна нас ускалыхнула. Мы сёння моцна адчулі тую трагедыю і тыя перажыванні бежанцаў і вельмі ўзрушыліся. Рыхтуючыся да выступаў, я размаўляла са сваімі бацькамі пра бежанства і даведалася, што з-за яго цярпелі таксама мае продкі. Падабаецца мне гульня ў тэатр і цудоўная нашая тэатральная група, якая падрыхтавала спектакль «Бежанцы», — заявіла Магдалена Гаўрылюк, якая выступіла ў чарговай пастаноўцы тэатральнага гуртка белмузея. Астатнія маладыя акцёры запрэзентаваліся на сцэне ўпершыню, але іх тэатральны дэбют атрымаўся ўдалым.

— Мае бацькі ўжо не ведаюць, ці нашыя продкі падаваліся ў бежанства. Выступаючы ў спектаклі «Бежанцы», я многаму даведалася пра падзеі з пачатку XX стагоддзя і выезд нашых жыхароў у глыб Расіі, — гаварыла Марыя Краўчык. — Займацца ў тэатральнай групе запрапанавала мне Магда Гаўрылюк, з якой я ў дуэце выступала падчас «Мастацкіх сустрэч школьнікаў». Мне акцёрская ігра падабаецца. Я люблю актыўнасць і тэатральную гульню.

Бельскія белліцэісты Якуб Мацяюк і Міхал Скарбіловіч сказалі мне, што атрымалі прапанову выступіць у спектаклі ад спадарыні Іаанны Стэльмашук-Троц. Атмасфера падчас рэпетыцый і прэм'еры спектакля ім моцна спадабалася. Белліцэісты стараліся ў спектаклі перадаць не толькі эмоцыі, але і гістарычныя падзеі з пачатку XX стагоддзя. Паказалі бальшавіцкую рэвалюцыю ў Расіі, біду і голад, якія паскорылі рашэнне вяртацца дамоў, дзе бежанцаў чакалі чарговыя выпрабаванні.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Трэці Рым і паніка

Наш універсітэцкі выкладчык гісторыі старажытнага Рыма чытаў нам лекцыі парасейску з моцна беларускім акцэнтам і гэткімі выразнымі сечанымі фразамі: „Мужчыны дрэўнега Рыму трэбавалі хлеба і зрэлішч", „Жэншчыны дрэўнега Рыму таргавалі сваім целам", „Рым ахваціла паніка!". Успомніліся мне гэтыя фразы ў звязку з той сітуацыяй, якая склалася апошнімі тыднямі ў сталіцы сучаснага „Трэцяга Рыма" — Маскве. Санкцыі, якія ўвялі Злучаныя Штаты Амерыкі і Еўрасаюз у адказ на брутальную агрэсію крамлёўскага рэжыму і анексію часткі суверэннай Украіны, запрацавалі. Многія называлі гэтыя санкцыі непаслядоўнымі, палавінчатымі і нават касметычнымі. Расейскія палітычныя саноўнікі толькі фыркалі і грэбліва крыва ўсміхаліся — маўляў, гэтыя захады нам як камарыны ўкус, гэта еўрапейскія дзяржавы зараз будуць пакутаваць ад сур'ёзнага гаспадарчага крызісу — іх санкцыі ім жа, заходнікам праклятым, бумерангам і вернуцца. Канчаткова звар'яцелыя ад шавінізму і імперскай пыхі розныя расейскія палітыкі, усялякія думцы і псеўдааналітыкі захлыналіся слінай і ачмурэла вярзлі свае мантры пра „вялікую Расею" і татальна варожы да яе свет. У адрозненне ад іх расейскія эканамісты, тыя, якія з ліку дасведчаных, выказваліся наконт санкцый стрымана і насцярожана. Але ніхто нават з іх не змог і блізка прагназаваць такога імклівага абвалу расейскага рубля, які здарыўся за апошні тыдзень. Выявілася, што ўведзеныя санкцыі і сусветнае паніжэнне кошту на нафту ў надзвычай глабалізаваным свеце вельмі хутка і вельмі істотна могуць уплываць на эканоміку такой дзяржавы, як цяперашняя Расейская Федэрацыя. Некаторым ужо пачынае даходзіць, што каб быць магутнай эканамічна дзяржавай, зусім недастаткова мець вялізныя багатыя радовішчы газу і нафты. Патрэбная яшчэ і мадэрнізацыя гаспадаркі, што ў Расеі і не збіраліся рабіць. Але, зрэшты, не настолькі слабая гэтая расейская эканоміка, не яна галоўная і вызначальная. У гэтай дзяржаве найбольш слабое месца — ідэалогія. А яе асноўная ідэалогія, прыхаваная за прыгожымі слоўцамі пра „рускі мір", „славянскае братэрства" і іншымі эўфемізмамі, адна — захоп чужых земель і паняволенне новых народаў. А гэта азначае непазбежна адно — вайну як уяўны сродак развязання ўсіх праблем. Найбольш адукаваныя і разумныя людзі ў Расеі, бачачы ў які тупік ідзе краіна, папросту выязджаюць з яе. Так за апошні год яе пакінула каля 250 тысяч чалавек.

Вельмі шкада, што эканамічныя санкцыі Захаду прыйшлі так позна. Іх уводзіць трэба было яшчэ ў пачатку другой чачэнскай вайны — у 1999 альбо 2000 годзе. Менавіта тады на вачах адносна ліберальны ельцынаўскі рэжым на вачах мяняўся на прынцыпова іншы. Але спатрэбілася дзясяткі тысяч ахвяр у Ічкерыі з абодвух бакоў, анексія часткі Грузіі, захоп Крыма і стварэнне бандыцкіх тэрарыстычных анклаваў на тэрыторыі Украіны, пакуль партнёры Крамля хоць нешта зразумелі.

Ці абудзіць такая „шокавая тэрапія" расейскае грамадства, якое зараз пачне прыкметна, а можа нават імкліва бяднець — цяжка сказаць. Тое, што значная частка расейцаў не зможа паехаць на калядныя вакацыі на альпійскія курорты Швейцарыі ды Аўстрыі, а ў новым годзе на Маўрыкій ці Мальёрку, наўрад ці ацвярэзіць гэтае грамадства. Пятнаццаць гадоў гэтае грамадства заплывала ксенафобіяй, шавінізмам і тлушчам. Пятнаццаць гадоў яно „гандлявала сваім целам" і патрабавала хлеба і відовішчаў. Так што наўрад ці надыдзе хуткае ацверажэнне. Хутчэй наадварот, нянавісць будзе расці. Ідэальны, канешне, варыянт, што крамлёўскі рэжым хутка пасыплецца разам са сваімі філіямі. Прымальнае развіццё сітуацыі — калі крызіс пяройдзе ў стагнацыю і застой узору сямідзясятых — пачатку васьмідзясятых гадоў часу Савецкага Саюза. Але найбольш верагодны сцэнарый той, што Масква будзе далей шукаць і кляймiць уяўных ворагаў, імкнуцца перавесці кангламерат нацыянальных, сацыяльных, эканамічных супярэчнасцей сваёй няўстойлівай федэрацыі, пагрозу грамадзянскай вайны ў знешнюю.

А пакуль „Трэці Рым" ахапіла валютная паніка...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Чубкі і дупкі



Перш чым патрапіць у кропку, спачатку папрашу прабачэння ў Чытача за свае словы, якія знаходзяцца ніжэй. Лаянкавыя гэта словы, падонкавыя. Немагчыма адгарадзіцца ад іх. Няма як заткаць на іх вушы, як прыплюшчыць на іх вочы. Але мы павінны даць ім супраціў. Занадта часта мы чуем іх у тэлевізары — ну і што, што заглушаныя яны гукавым сігналам і чорнай плямкай. Кожны ведае, пра што гаворка. Словы на „к", „п" у іх шматлікіх і трывожна злоўжываных варыянтах і ў нявінных сітуацыях абражаюць маю інтэлігентнасць. Я перакананы, што таксама чытачоў. Яны абражаюць нас у сучаснай літаратуры, у штодзённых газетах. Нават тады, калі мы ідзем па вуліцах гарадоў і нават вёсак, абражаюць нас лаянкай з насценных надпісаў. Некаторыя людзі адносяцца да гэтага абыякава, іншыя выступаюць супраць іх. У цэлым, аднак, генеруюць яны адмоўныя эмоцыі.

У адным з ранейшых фельетонаў я напісаў, што негатыўныя эмоцыі прысвоілі ўсе аспекты нашага жыцця. Яны выяўляюцца ў так званых непрыстойных словах, якіх асноўная функцыя заключаецца ў заяве агрэсіі, нянавісці, а не змесце. Злоўжыванне бяззместавымі паведамленнямі супярэчыць здароваму сэнсу, які філосаф Арыстоцель называў разважлівасцю. Неразважлівая паблажлівасць дрэнным эмоцыям, таму што яны змываюць з міжасобасных зносін з іншымі людзьмі рэшткі застаўшагася ў іх зместу. Усё менш і менш мы размаўляем адзін з адным. Усё часцей крычым адзін на аднаго. Плюем адзін на аднаго. Паклёпнічаем. Прызываемся. Апаганьваем. Дык няма нічога дзіўнага ў тым, што грамадства падзялілася як першабытная амёба. Напалову. Гэта азначае, што адна палова люта змагаецца з другой паловай. І наадварот — і яшчэ як! Яны ўгрызліся адзін у аднаго, як раз'юшаныя найпростыя. Гэта ўжо не барацьба на жыццё і смерць (таму што абодва бакі скрываліся практычна цалкам), што за апошнюю кроплю цывілізацыйнай і культурнай плазмы — звычайнай прыстойнасці.

Найпросты падзел адбываецца не толькі ў грамадстве, у сродках масавай інфармацыі, на вуліцы і ў прадпрыемствах, так сярод моладзі ў гімназіях, ліцэях, універсітэтах, так і сярод дарослых. Але таксама і ў мове, пісьмовай і вуснай. Прыкладам гэтага з'яўляецца несмяротная вайна, якая вядзецца ад гадоў у справе правапісу назвы мужчынскай часткі цела. У рэшце рэшт, не пра напісанне тут ідзе, таму што Рада польскай мовы разгледзела гэтыя формы напісання як варыянты слоў. Толькі што ў такі спосаб акультурыла мову вуліцы і стаяўшы за гэтым этас люмпенаў. Этас, нагадаем, у адпаведнасці з Эцыклапедыяй Ларуса, гэта комплекс паводзін прызнаных за мэтазгодныя, пажаданыя ў той ці іншай сацыяльнай групе ці іншай канкрэтнай вобласці дзейнасці. Так што, калі такі этас уварваўся на салоны моўнай культуры, мусіла было прыйсці да бязлітаснай канфрантацыі. З часам, гэтая культурная спрэчка ператварылася ў вайну рацый. А там дзе процілеглыя аргументы, рана ці позна прыйдзе да асабістых інвектыў і паклёпу. Прыхільнікі рознага правапісу ў сваёй запекласці забыліся, аднак, што назвы маюць агульную семантычную канатацыю. Вось што!

Я да сёння памятаю вочы пашыраныя ад здзіўлення ў майго малога пляменніка, выхаванага ў доме, дзе злоўжываннем прыстойнасці было слова «халера», калі я даказаў яму па Вялікім тлумачальным слоўніку, што лаянкавыя словы належаць да рэсурсаў польскай мовы. І я павінен быў гэта зрабіць, таму што дайшла да яго вушэй лаянка майго суседа з-за плота. Ён не мог паверыць, што той гаварыў... папольску. Ну, як я павінен быў растлумачыць малому, што слоўнік не для таго, каб збіваць словы, але каб іх рэгістраваць і вызначаць? — Гэта немагчыма, у рэшце рэшт, „х.." гэта вельмі брыдкае слова! — крыкнула цнатлівае хлапчаня, калі я паказаў яму вядомае слова ў Слоўніку.

Амёбападобная вайна нарэшце пашырылася на палітыку. Хто вінаваты ў апаганьванні палітычнага дыялогу ў нашай краіне — ПіС і ГП? Калі яшчэ не абкідваюцца гранатамі, цвікамі, камянямі, варта памятаць, што словы таксама забіваюць. На жаль, гэтыя смяротныя словы часцей падаюць ад палітыкаў ПіС і іх прыхільнікаў. Хоць, праўда, другі бок кусаецца не менш балюча. Толькі што бяззместавая рыторыка, якая выкарыстоўваецца з абодвух бакоў, не менш няясная, як прычыны чаму два ліліпутныя каралеўствы, аб якіх пісаў Джонатан Свіфт у „Падарожжах Гулівера", вырэзваліся ад пакаленняў у імя дактрынальных рацый, традыцыі і патрыятычнай прыхільнасці да... спосабу разбівання яйка ўсмятку. Ці трэба гэта рабіць з верхняй часткі шкарлупкі, ад чубка, ці можа ад дупкі? А што вы на гэта — чубкі і дупкі?

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Беларусь у парламенце

Пры канцы года, вядома, час падводзіць вынікі. Калі думаю пра мінаючы год, прыходзяць мне на думку дзве важныя падзеі звязаныя з Беларуссю, якія адбыліся ў снежні ў польскім парламенце. У рамках святкавання Міжнароднага дня правоў чалавека 10 снежня ў Сенаце былы палітвязень, старшыня беларускага Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі атрымаў прэмію Упаўнаважанага па правах чалавека імя Паўла Владковіца і сенацкі медаль, якім узнагароджваюць «абаронцаў асноўных правоў і грамадзянскіх свабодаў». У прысутнасці прадстаўнікоў Канцылярыі прэзідэнта і прэм'ер-міністр, амбудсменка Ірэна Ліповіч (якая ўручыла яму ўзнагароду) сказала, што прэмія з'яўляецца «выразам ушанавання чалавека, які штодня плаціць высокую цану за свае перакананні». Старшыня сеймавай камісіі па замежных справах Роберт Тышкевіч у лаўдацыі ў яго гонар падкрэсліў, што Алесь Бяляцкі «гэта твар жыхароў гэтай краіны, імкнуўшыхся да дэмакратыі і асноўных правоў чалавека». Лаўрэат падзякаваў за праяўленую салідарнасць з Беларуссю і рэальную дапамогу Польшчы, перш за ўсё за падтрымку беларускіх няўрадавых арганізацый і незалежных сродкаў масавай інфармацыі, такіх як партал charter97.org, Радыё Рацыя і тэлеканал «Белсат». Пасля парталу charter97.org сказаў:

— Вядома, гэтая ўзнагарода не толькі мая асабістая заслуга. Гэтае дасягненне з'яўляецца важным для ўсіх беларускіх дзеячаў і грамадзянскай супольнасці. Гэтая ўзнагарода доказвае, што Польшча памятае аб цяжкай і трагічнай сітуацыі, якая адбываецца ў Беларусі. Палякі падтрымліваюць нас і з намі салідарны.

Алесь Бяляцкі — першы лаўрэат прэміі імя Паўла Владковіца, які не з'яўляецца грамадзянінам Польшчы.

Раней — 4 снежня, падчас пасяджэння парламенцкай камісіі па замежных справах адбылося першае пасяджэнне польскіх парламентарыяў з васьмю прадстаўнікамі апазіцыйных рухаў і партый з Беларусі. Такія сустрэчы маюць праводзіцца перыядычна, і кожнае будзе прысвечана асобнай тэме. У першай сустрэчы прынялі ўдзел м.інш.: лідар кампаніі «Гаворы праўду!» Уладзімір Някляеў, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Павел Севярынец. Старшыня камісіі Роберт Тышкевіч пасля сустрэчы заявіў падчас прэс-канферэнцыі:

— Адкрываем новую практыку міжпарламенцкіх кансультацый паміж прадстаўнікамі польскага палітычнага жыцця, польскімі палітычнымі партыямі, і нашымі партнёрамі на беларускім баку. Мы хочам рабіць гэта ў польскім Сейме ў міжпартыйным фармаце.

Сустрэча тычылася сітуацыі ў Беларусі, у асноўным у сувязі з крызісам на Украіне і прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе ў Беларусі. Анатоль Лябедзька падкрэсліў:

— Для нас Польшча з'яўляецца лакаматывам каштоўнасцей і прынцыпаў у ЕС. У той жа час варта падкрэсліць, што за нас, беларусаў, ніхто нашай справы не выраша.

Ён нагадаў, што беларуская апазіцыя прапануе для Беларусі г.зв. стратэгію трох крокаў, першым з якіх з'яўляецца вызваленне і рэабілітацыя палітычных зняволеных (у турме застаюцца кандыдат ад апазіцыі на пасаду прэзідэнта на выбарах 2010 года Мікалай Статкевіч і сем іншых палітзняволеных). Другі — правядзенне свабодных выбараў, трэці — падрыхтоўка, разам з ЕС, планаў мадэрнізацыі Беларусі, пры якіх таксама павінен працаваць Еўрасаюз.

Згодна з паведамленнем старшыні Тышкевіча, Польшча мае пачынаць крокі, каб зрабіць прасцейшымі для беларусаў падарожжы па Еўропе, вырашыць пытанні мясцовага памежнага руху з гэтай краінай і падтрымкі візавых негацыяльных паміж ЕС і Беларуссю. І хай так будзе ў новым годзе.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ



# XVII БЯЗМЕЖЖА — ЦУД НА МЕСЦЫ

Ад гадоў 12, 13, 14 снежня стала традыцыйнай датай праводжанага літаратурнага семінара „Бязмежжа”, які ўжо ад некалькіх гадоў знайшоў месца ў Новым Ляўкове, на хутары Лазовае. Сёлета — у сямнаццаты раз сабралася міжнародная кампанія літаратараў, перакладчыкаў, бардаў, выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў кніг, мастакоў, журналістаў — творцаў культуры, якая не мае межаў. Асновай семінара з'яўляюцца літаратурныя чытанні і прэзентацыі, між іншым літаратурна-мастацкага рэпартажу на Беларускім Радыё Рацыя, тэлефільмаў ці „ніўскага” рэпартажу Ганны Кандрацюк. Героямі з'яўляюцца людзі і месцы, якія сваім талентам увекавечваюць аўтары. І няма тут паміж намі мяжы, хаця яна ёсць — за поясам раллі, за калючым дротам, за пагранпераходам паміж не толькі Польшчай і Беларуссю, але і Еўрасаюзам ды спадчыннікамі Савецкага Саюза.



— Я не адчуваю, што паміж намі ёсць мяжа. Галоўнае заўсёды — наяўнасць крыніцы энергіі, — сцвердзіў Сяргей Дубавец, пісьменнік з Мінска, які на гэтым семінары паявіўся — урэшце! — упершыню.

— За гэтыя сямнаццаць гадоў шмат чаго добрага дзеецца вакол „Бязмежжа”, — прывітаў сабраную групу ўдзельнікаў з 22 асоб адзін з арганізатараў семінара і яго заснавальнік, старшыня Беларускага саюза, галоўны рэдактар „Нівы” і старшыня Управы Радыё Рацыя Яўген Вапа. — Чаканне „Бязмежжа” гэта больш чым чакаць цуду, які здзяйсняецца. Сёлетняе «Бязмежжа» паказвае, што духоўнае, прыгожае, эстэтычнае слова можа быць не толькі ў пісьменстве, але і ў літаратурным, і дакументальным рэпартажы.

Плёнам семінараў на працягу гадоў былі новыя кнігі — аўтарскія і пераклады, свой часопіс „Правінцыя”, разварушванне думкі і рэалізацыя новых планаў і задум, абмяркоўванне тэндэнцый беларускага літаратурнага працэсу ў Беларусі і на Беласточчыне, дыялог прадстаўнікоў Саюза беларускіх пісьменнікаў з пісьменнікамі Падляшша, якія на працягу пару дзясяткаў гадоў таксама пасталелі, і з вялікай прыемнасцю папаўняюць сваю творчую групоўку наймалодшым пакаленнем творцаў на роднай ніве. Склалі своеасаблівую справаздачу, падзяліліся плёнам і здабыткамі таксама і інтэрнэт-бібліятэка „Камунікат” (Яраслаў Іванюк), Фонд „Віла Сакратас” (Павал Грэсь), выдавецтва „Нівы”, Саюз беларускіх пісьменнікаў. Плён быў відавочны таксама простым вокам — у папяровых выданнях кніг і часопісаў (пасляяновічаў „Год беларускі”, „Дзеяслоў”...), дыскаў, фільмаў, плакатаў і буклетаў, у інтэрнэтных сайтах пра культуру і літаратуру.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч Сачанка падзяліўся выдавецкімі поспехамі і праблемамі беларускага літаратурнага асяроддзя:

— Мінаючы год быў годам вялікіх страт у беларускай літаратуры: пайшлі з жыцця паэты Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін, не стала вялікіх празаікаў Уладзіміра Дамашэвіча і Анатоля Кудраўца... Страцілі мы як СБП сваю маёмасць, турбуюць нас выдавецкія праблемы, таксама ў распаўсюдзе літаратуры... Тым не менш выдаемся, гуртуемся. Кожны раз прыязджаюць на „Бязмежжа” пад Белавежскую пушчу найцікавейшыя пісьменнікі, барды... Сяргей Дубавец — пісьменнік, паэт, выдавец, бард, блогер, журналіст Радыё Свабода, Анатоль Івашчанка — паэт, адказны за часопіс „Дзеяслоў”, Віталь Рыжкоў — «паэт, які ні з кім не тусуецца», перакладчык з англійскай і ўкраінскай моў, аўтар кнігі вершаў «Дзверы, замкнёныя на ключы», лаўрэат прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча, прэміі часопіса «Дзеяслоў», фіналіст конкурсаў беларускага ПЭН-цэнтра да стагоддзя газеты «Наша ніва», імя Карласа Шэрмана... Выдалі мы між іншым першую празаічную кнігу Кацярыны Оаро «Сарочае радыё» — маладой беларускай аўтаркі, якая цяпер жыве і працуе ў Францыі — стала яна дзясятым выпускам серыі «Пункт адліку» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. У серыі «Пункт адліку» выйшлі яшчэ дэбютныя кнігі Антона Рудака і Андрэя Лазуткіна. Абодва аўтары сёлета скончылі Школу маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Дэбютную кнігу Антона Рудака (1989 г. нар.) склалі вершы, напісаныя за апошнія пяць гадоў. «Верхні горад» — гэта знаёмыя мясціны з нечаканага ракурсу, прыватныя ўспаміны і агульная спадчына, мінулае і сучаснасць. Школу маладога пісьменніка канчае цяпер працэнтна значная большасць маладых аўтараў, якія пачынаюць пісаць на беларускай мове.

Кніга Таццяны Барысік — маладой пісьменніцы, сяброўкі Магілёўскай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў „Жанчына і леапард” выйшла сёлета ў выдавецтве „Кнігазбор” у серыі „Кнігарня пісьменніка”. Узор сучаснай жаночай прозы — лаканічна і дасціпна, захапляльна і філасафічна, з пранікненнем у псіхалагічныя таямніцы чалавечых стасункаў. Прэмія „Дэбют” прысуджаецца штогод за найлепшую дэбютную кнігу, напісаную на беларускай мове ці перакладзеную на яе, аўтару або перакладчыку ва ўзросце да 35 гадоў на момант выдання кнігі. „Дэбют” ушаноўвае маладых аўтараў, што пішуць у жанрах, у якіх працаваў Максім Багдановіч, і ўручаецца ў намінацыях „Проза”, „Паэзія”, „Мастацкі пераклад”.

Новае выданне з „Кнігарні пісьменніка” прывезлі сябры СПБ на „Бязмежжа” — зборнік вершаў нарвянкі Касі Сянкевіч „Гарбата з незабудак”, на наступным годзе паявіцца кніга лірыкі бяльшчаніна Андрэя Сцепанюка. Сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў прывезлі яшчэ ў падарунку нашым „дэбютантам” (удзельнікам — таксама XVII — Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы — кніжныя падарункі — кнігі для дзяцей, выданыя ў Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў „Кнігарня пісьменніка” ў падсерыі „Каляровы ровар”. Выданні серыі „Кнігарня пісьменніка” ў Мінску можна купіць у крамах „Акадэмкніга” (праспект Незалежнасці, 72), „Кнігарня Ў” (праспект Незалежнасці, 37А), „Кніжны салон” (вул. Калініна, 5), „Кнігарня пісьменніка” (вул. Казлова, 2), „Веды” (вул. К. Маркса, 36), „Цэнтральны кніжны” (пр. Незалежнасці, 19), „Кнігі & кніжачкі” (пр. Незалежнасці, 14). Ёсць выданні і на сайтах **knihi.by, imbryk.by, prastora.by.**

Словы ўзнікаюць не на голым, выгарэлым месцы. Яны пускаюць парасткі з глебы, дзе раней раслі нават у неспрыяльных умовах нашы старэйшыя на пакаленні рупліўцы на беларускай ніве і змагары, якія нават паклалі за гэта галовы. Выдаюцца кнігі гэтым пакаленнем, між іншым, Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Сакрата Яновіча, аўтараў старэйшых і менш вядомых. Успаміналася таксама тутэйшая літаратурная „Белавежа” і аўтары, м.інш. сусед з Тарнопаля Уладзімір Гайдук, адышоўшы ў 2012 годзе, Георгій Валкавыцкі, той жа Сакрат Яновіч — калегі белавежцаў-бязмежнікаў, якія ніяк не адцінаюцца ці пакаленнева, ці тэматычна або стылістычна ад тых, хто працаваў і працуе ў родным слове, хаця ствараюць іншае. Прэзентавалі свае творы Віктар Стахвюк, Міра Лукша, Кася Сянкевіч і Міхась Андрасюк. З Беларусі — сам Барыс Пятровіч, Анатоль Івашчанка, Сяргей Дубавец, Віталь Рыжкоў. Сяргей Дубавец прадставіў факсімільнае выданне юнацкіх вершаў сваёй жонкі святой памяці Таццяны Сапач і сваю кніжку прозы «Сіні карабель у блакітным моры плыве». Віталь Рыжкоў — як непераўзыдзены сламер, выдатна дэкламаваў свае «Чорна-белыя вершы».

Літаратурна-мастацкі рэпартаж на Беларускім Радыё Рацыя прадставіў Юрка Ляшчынскі. „Падзеленыя мяжой — Бобінка” — рэпартажы Іны Хоміч і Міхася Андрасюка расказваюць пра людзей з абодвух бакоў еўрасаюзнай мяжы, пра вёску, якую перасякла палітычная мяжа. Міхась Андрасюк, паэт, празаік ды радыёжурналіст наведаў „Людзей на ўскраіне пушчы”, таксама і літаратараў, пра якіх прэзентуе радыёрэпартажы. Пра людзей і месцы Мікола Ваўранюк паставіў дакументальнае кіно „Гавораць беларусы Падляшша”. Вядомы кінематаграфіст Юры Каліна прадставіў сваіх герояў і паказаў пакуль забаронены польскім тэлебачаннем фільм пра людзей вёскі Сакі пад пакровам святога Дзмітрыя Салунскага. Сустрэчы з героямі і месцамі, ці то тутэйшымі, беларускімі ці іншаземнымі, як у выпадку рэпартажысткі і празаічкі Ганны Кандрацюк (Беларусь, Грузія, Украіна) заўжды прасейваюцца праз беларуска-верную лінзу, своеасаблівую для ўнутранага сусвету аўтаркі. Паэтычныя месцы самога Падляшша пераглянула ў сваёй творчасці Міра Лукша, а яны, месцы роднага краявіду і людзі — таксама корань яе паэзіі і светаадчування.

Была нагода паслухаць паэтаў і бардаў Анатоля Івашчанку, Зміцера Бартосіка, Анатоля Баравіка з Беластока — паэта, барда, арганізатара міжнароднага фестывалю Булата Акуджавы (агульнапольскі, пачынаецца ў Гайнаўцы), даследчыка... беларускіх вяселляў, Арцёма Сітнікава з Івацэвіч, інжынера і харыста, які прэзентаваў таксама творы з Анталогіі рускай рок-паэзіі, надрукаванай у часопісе «Дзеяслоў» — пераклады песень м.інш. Андрэя Макарэвіча, Барыса Грабеншчыкава, Віктара Цоя, Ягора Летава, Юрыя Шаўчука. Над перастварэн-

працяг ☞11

## Распаўсюджвайма сваю «Ніву»!..

Перадапошні снежаньскі нумар «Нівы» выйшаў з календаром. Я, шматгадовы карэспандэнт, намагаюся актыўна саўдзельнічаць у распаўсюджванні роднага часопіса. Штогод еду ў рэдакцыю і бяру некалькі дзясяткаў экземпляраў «Нівы» з календаром. Рэкамендую яе аднавяскоўцам ды знаёмым у Чаромсе. Расходзіцца 60-70, а нават і больш за сотню экземпляраў. Сёлета, напрыклад, узяў сотню і за адным падыходам у чацвер, 18 снежня да абеду, прадаў 36 экземпляраў. Апрача сталых заказчыкаў прыбаўляюцца новыя. Шмат прадаю ў Гміннай управе, але найбольш разыходзіцца на чаромхаўскім рыначку. Купляюць «Ніву» жыхары навакольных вёсак, як і прыезджыя купцы з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага ці Сямятыч. Такая ўжо прынялася ў іх звычка. І цешацца яны тым, што ў «Ніву» з календаром забяспечваюцца ў мяне без праблемы. І я маю задавальненне, што магу памагчы ў распаўсюджванні свайго часопіса. А можа б так іншыя карэспандэнты пераянялі такую звычку? Да пушынкі пушынка і будзе пярынка, — кажуць у народзе. Падумайце над справай, паважаныя калегі.

**Уладзімір СІДАРУК**




## У краме ў Кузаве

Кузава лічыцца адным з большых сялэцтваў Чаромхаўскай гміны. Некалькі год таму, у 2005 годзе, напрыклад, пражывала тут 217 жыхароў. Зараз у 70 заселеных гаспадарках пражывае 175 жыхароў. Больш трыццаці сядзіб застаюцца апусцелымі. У вёсцы ёсць прыхадская царква, шыкарна адрамантаваная святліца ды вясковая крама. Прадаўшчыцай у краме працуе Раіса Бішчук. Гэта вопытная работніца гандлю. Яна становіча ставіцца да службовых абавязкаў, дбае пра належнае забеспячэнне крамы ў харчовыя прадукты ды неабходныя для гаспадаркі рэчы. Тут заўжды чысціня і парадак. Гадзіны працы прыстасаваны да патрэб аднасяльчан: чатыры гадзіны зранку (7-11), затым чатыры пасля поўдня (16-20). Паколькі цэны тут крыху большыя, чым у чаромхаўскіх маркетах, пакупнікамі ў асноўным з'яўляюцца пенсіянеры. І аб гэтых апошніх падумала чаромхаўская прадпрымальніца. Па дамове з поштай, ад паловы траўня г.г., у кузаўскай краме адкрылі паштовае агенцтва. Зараз тут можна заплаціць рахункі за электраэнергію, вываз нечыстотаў, за ваду, зрабіць перавод грошай на банкавыя рахункі ды іншае. Аплата за паслугу — як у паштовых аддзяленнях. Гэта вялікая дабрадзейнасць для кузаўскіх пенсіянераў. Не трэба затым ехаць у Чаромху і траціць час. Усе справы можна ўладкаваць на месцы. І так быць павінна...

**(ус)**

# Гміна Гайнаўка мае шанц амаладзіцца



Фота Аляксея МАРОЗА

### Размова з новаабранай войт Гайнаўскай гміны ЛЮЦЫНАЙ СМАКТУНОВІЧ, якая з 4 снежня стала выконваць свае абавязкі.

**— Віншуем Вас з выбарам на пасаду войта Гайнаўскай гміны, дзе ажно 5 асоб старалася за гэтае крэсла. Вы атрымалі самую вялікую падтрымку выбаршчыкаў у час першага галасавання і каля 65% падтрымкі ў другім туры. Як Вы стараліся пераканаць да сябе выбаршчыкаў?**

— Я звярнулася да выбаршчыкаў з праграмай супрацоўніцтва з усім грамадствам гміны. Вялікія інвестыцыі былі рэалізаваны ў частцы нашай гміны і хачу іх працягваць на астатняй тэрыторыі, каб збалансаваць развіццё ўсёй гміны. Апрача вялікіх інвестыцый, у гміне трэба пастаянна афармляць розныя меншыя справы, важныя для мясцовага насельніцтва. Спатыкаючыся з выбаршчыкамі на вёсках, я пытала ў людзей пра найважнейшыя для іх справы і маю намер рэалізаваць іх прапановы. Напрыклад, у нашай гміне стаяць запушчаныя святліцы і трэба будзе іх адрамантаваць. Спачатку трэба будзе дакончыць распачатыя інвестыцыі, а пасля — хадайнічаць за сродкі на новыя, мадэрнізаваць дарогі, будаваць каналізацыю.

**— Раней у Вашай гміне рэалізавалася многа інвестыцый, на якія выдаткоўваліся вонкавыя сродкі, з падтрымкай гмінных сродкаў і крэдытаў. Якая задоўжанасць гміны?**

— У нашай гміне рэалізаваліся многія інвестыцыі і таму задоўжанасць гміны вялікая. Мы не плануем рэалізаваць новых вялікіх інвестыцый у наступным годзе, бо трэба будзе давесці да стабільнасці бюджэт гміны.

**— Тады якія інвестыцыі плануеце рэалізаваць у бліжэйшай будучыні?**

— Разам з павятовым самаўрадам і гмінным самаўрадам з Дубіч-Царкоўных будзем супольна мадэрнізаваць павятовую дарогу Дубічы-Асочныя — Ягаднікі. У наступным годзе будзем намагацца прыцягнуць вонкавыя сродкі, дакінуць уласныя грошы і мадэрнізаваць дарогу ў Ліпінах. Запланаваны таксама другі этап мадэрнізацыі вуліц Таровая і Ланковая ў Дубінах. Будзем выступаць за вонкавыя сродкі на будову санітарнай каналізацыі ў вёсках Трывежа, Катоўка, Васількова, Рэпіска. Прадугледжваю, што яшчэ ў гэтым скліканні выканаем мадэрнізацыю дарог Барысаўка — Альховая Кладка, Вялікія Пасечнікі — Стэпкі, Навасады — Дубінская Ферма і дарогі ў Скрыплева. Прадбачваю рамантаваць святліцу ў Арэшкаве, дзе жывуць актыўныя людзі, пазней рамантаваць астатнія святліцы. Будзем старацца ўсюды актывізаваць мясцовае грамадства, каб арганізаваць больш актыўную дзейнасць у святліцах.

**— У Гайнаўскай гміне на тэрыторыі Белавежскай пушчы і побач яе дзейнічае многа агратурыстычных кватэр, ёсць магчымасць паставіць на развіццё турызму.**

— Нашая гміна ахоплівае частку Белавежскай пушчы і яе наваколля. Мы будзем успамагаць турыстычную дзейнасць на тэрыторыі нашай гміны, а Надлясніцтва Гайнаўка выяўляе ахвоту ўспамагаць нас у гэтай працы. Хочам выдаць буклет з рэкламнымі матэрыяламі пра агракватэры, Белавежскую пушчу і турыстычныя атракцыёны ў нашай гміне. Рэкламныя матэрыялы будзем распаўсюджваць па Польшчы і старацца перадаваць за мяжу нашай краіны. Пра Белавежскую пушчу ведаюць ва ўсёй Еўропе. Мы будзем старацца затрымаць у нашай гміне турыстаў, якія зараз едуць перш за ўсё ў Белавежу.

**— У Вашай гміне працуе многа рознай велічыні дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, але паявіўся шанц разгарнуць іншую галіну прамысловасці.**

— Дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы — натуральныя ў нашай гміне. Але мы будзем таксама заахвочваць разгортваць іншую дзейнасць. Нам моцна залежыць, каб пачало дзейнічаць керамічнае прадпрыемства побач Трывежы. Аднак для такой дзейнасці неабходна пракласці газапровад у Трывежу. Буду я размаўляць з газавымі суполкамі, каб пракласці трубу ў Трывежу. Аднак для гэтага патрэбныя супольныя дзеянні многіх самаўрадаў Гайнаўшчыны і гмін з-па-за нашага павета, бо без большага запатрабавання на газ, такая інвестыцыя не будзе рэалізаваная.

**— У Арлянскай гміне стаяць ужо ўказальнікі з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах. Ці Вы прадбачваеце выступіць да Рады Гайнаўскай гміны ў справе двухмоўных дошак з назвамі вёсак па-польску і па-беларуску, што адбываецца за сродкі з дзяржаўнага бюджэту?**

— Калі я спатыкалася з жыхарамі нашай гміны перад самаўрадавымі выбарамі, не паявілася прапанова ўсталявання двухмоўных дошак. Аднак, калі будуць выбары солтысаў, я буду пытаць у людзей, як яны ставяцца да ідэі ўказальнікаў на польскай і беларускай мовах.

**— Падчас перапісу насельніцтва, праведзенага ў 2002 годзе, 64,91% жыхароў Гайнаўскай гміны назвала сябе беларусамі. У Вашай гміне ладзяцца беларускія мерапрыемствы і ва ўсіх школах вядзецца навучанне роднай мове. Што можна зрабіць, каб зацікаўленне беларускай мовай яшчэ пабольшала?**

— Нам трэба будзе старацца арганізаваць больш беларускіх мерапрыемстваў, падчас якіх маладыя бацькі і іх дзеці маглі б пераканацца, што варта і трэба ведаць сваю беларускую мову, якую можна выкарыстаць таксама выступаючы публічна, дэкламуючы вершы ці спяваючы песні пабеларуску. Калі мясцовае грамадства будзе арганізаваць беларускія вечарыны, ці іншыя сустрэчы ў беларускім духу, тады будзе больш ахвотных запісваць дзетак на вучобу беларускай мове.

**— Зараз штораз больш культурных імпрэз арганізуецца з выкарыстаннем вонкавых сродкаў. Ці прадбачваеце выступаць за імі на арганізаванне беларускіх мерапрыемстваў?**

— Я хачу актывізаваць мясцовае грамадства, каб нашы жыхары арганізавалі па вёсках мерапрыемствы і майстар-класы, пісалі праекты, здабывалі еўрасаюзныя і іншыя сродкі на імпрэзы, якія мы будзем таксама ўспамагаць гміннымі грашамі. Пры нагодзе можна будзе прапагандаваць беларускую мову, запрашаючы на мерапрыемствы беларускія калектывы і заахвочваючы да выступаў па-беларуску нашых дзетак і моладзь, што будзе таксама спрыяць вучобе па-беларуску ў школах.

**— У Гайнаўскай гміне, так як у іншых нашых вясковых гмінах, жыве многа пажылых людзей. Ці ёсць у Вас планы адкрыць гмінны асяродак, у якім старэйшыя людзі знайшлі б апеку?**

— Да мяне звярнуліся асобы, якія хочуць з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў адкрыць такі асяродак у нашай гміне. Яны хочуць, каб выдзеліць ім гмінны будынак, у якім пасля мадэрнізацыі можна было б арганізаваць апеку для жыхароў гміны. Нам важнае, што нашыя старэйшыя людзі маглі б у такім асяродку знайсці пастаянную апеку, а мясцовыя людзі ў працоўным узросце знайшлі б там працу. Аднак трэба рашыцца які будынак выдзеліць пад такую дзейнасць.

**— Вы дзяцінства і моладасць правялі ў Дубічах-Асочных і Старым Беразове, а зараз пражываеце ў Дубінах. У вёсках распалажаных вакол Гайнаўкі сталі штораз часцей пасяляцца маладыя, якія адсюль даязджаюць на працу ў Гайнаўку і іншыя мясцовасці. Можа гэта шанц амаладзіць мясцовае насельніцтва?**

— Раней людзі з вёсак перасяляліся ў гарады, а зараз у сёлах, распаложаных непадалёк ад гарадоў, пайшла адваротная мода. Гараджане рамантуюць у нашай гміне спадчынныя хаты, прызначаюць іх на дачы і адпачываюць у іх. Аднак штораз больш маладых сямействаў пасяляецца на пастаяннае жыхарства ў нашай гміне. На машынах могуць яны даязджаць на працу ў Гайнаўку і ў іншыя мясцовасці. Паколькі нашая гміна акружае Гайнаўку, мае шанц амаладзіцца.

**— Дзякую за размову і жадаю поспехаў у працы ў карысць Гайнаўскай гміны.**

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

# Вечная „Папуша”

**— Гэтая роля застанецца за мною назаўсёды, — гаворыць Йовіта Буднік — фільмавая Папуша. Год і месяц пасля прэм’еры кінафільма „Папуша” Іаанны Кос-Краўзэ і Кшыштафа Краўзэ завандравала ў Майстэрню фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове. Да ўдзелу ў гэтым асаблівым мерапрыемстве дырэктар Майстэрні Тамаш Вісьнеўскі запрасіў, між іншым, выканаўцу галоўнай ролі Йовіту Буднік і лепшага беластоцкага фільмавага крытыка Адама Радзішэўскага.**



Йовіта Буднік

Йовіту, у нейкім сэнсе, таксама можна назваць беластоцкай. У падміхалоўскай Новай Волі нарадзіўся яе муж, тут таксама пражываюць цесці Дарота і Уладзімір Буднікі. Продкі актрысы з дому Мёндлікоўскай выводзяцца з Сувальшчыны.

Хаця 41-гадовая Йовіта не мае акцёрскага дыплома, на яе рахунку ўжо шмат роляў у кіна- і телепрадукцыях. У дванаццаць гадоў дэбютавала ў фільме Радаслава Піваварскага „Любоўнікі маёй мамы”. У 1988-1990 гадах сыграла Марту ў першай польскай тэленавеле „У лабірынце”. Не выступае надта часта, але надоўга застаецца ў памяці гледачоў. Так было са спецыяльна для яе напісаным сцэнарыем „Плошча Збавіцеля” аўтарства Кшыштафа Краўзэ і Іаанны Кос-Краўзэ. Той фільм на 31. Фестывалі польскіх мастацкіх фільмаў прынёс ёй „Залатыя львы” і Польскую фільмавую ўзнагароду „Арлы” за першапланавую жаночую ролю.

Роля Папушы — першай цыганскай паэтэсы, творчасць якой дачакалася польскага перакладу, пакуль застаецца неўзнагароджанай. Сам фільм таксама афіцыйна больш прызнаны ў свеце, чым у краіне. Чаму? Ці існуе тут нейкая сувязь з надта трагічным лёсам галоўнай гераіні і ўсёй цыганскай нацыі?

„Папуша” паказвае сацыяльна выключаных, перапследаваных, перш за ўсё польскім грамадствам, прадстаўнікоў канкрэтнай нацыянальнай меншасці. Галоўная гераіня выключана таксама на індывідуальным узроўні. Падзяліла яна даваенны, ваенны і не менш складаны пасляваенны лёс польскіх цыганоў. Памірае хворая, галодная і праклятая ўласным, але да канца любімым народам, а нават сынам. Такую цану плаціць за інтэлектуальную адметнасць, за мары пра адукацыю, а значыць свабоду, за любоў да роднага слова і народа. Жахлівасці яе біяграфіі прыдае пажыццёвае цярпенне, звязанае з раннім прымусовым сужонствам з родным, на 25 гадоў старэйшым і з самага пачатку зненавіджаным дзядзькам, і таксама вялікая, няздзейсненая любоў да выдатнага інтэлектуала-паэта і цыганолага Ежы Фіцоўскага. Малады паэт, пераследаваны ў пасляваенны перыяд камуністычнымі службамі, два гады вандраваў з цыганамі. Так пазнаёміўся ён з Папушай — вядомай таксама як Браніслава Вайс. Заўважыў вялікі талент жанчыны і прасіў яго развіваць. Потым яе вершы асабіста перакладаў на польскую мову і публікаваў. У гэтай справе Фіцоўскага падтрымліваў Юльян Тувім. У міжчасе спісваў ён таксама, дагэтуль існуючыя выключна ў вусным пераказе, абычаі і легенды польскіх цыганоў. На канцы адной са сваіх кніжак памясціў невялікі ромска-польскі слоўнік, што, паводле Йовіты Буднік, стала асноўнай прычынай абвінавачання Папушы ў здрадзе цыганскаму народу.

Па форме згаданая кінастужка падобная на нехраналагічны чорна-белы фотаальбом. Перагортванне старых фотаздымкаў — галоўнага рэсурсу ведаў пра колішніх цыганоў, так больш-менш выглядаў працэс сямігадовай падрыхтоўкі да фільма.

— Гэта падарожжа па эмоцыях вобразамі тамтых часоў, — сцвярджае Йовіта.

З „Папушай” аб’ехала яна ўжо Польшчу і немалы кавалак свету.

— Ніколі раней не прыходзілася мне столькі падарожнічаць, як дзякуючы гэтаму фільму. У мяне складаецца ўражанне, што табар не спыняецца, а я еду разам з ім.

Дзе б яна не пабывала, усюды сустракала гледачоў, якія прызнаваліся ёй у сваёй ідэнтыфікацыі з надта балючым досведам фільмавых герояў. Няйначай было і ў Міхалове. Сведчыць гэта пра неабыякавую падборку тэмы фільма, яго асаблівае мастацтва, а таксама прафесіяналізм галоўнай актрысы.

Перад міхалоўскай публікай выступіла яна ў вопратцы, якая літаральна злівалася з чорна-шэра-белымі кадрамі фільма. Доўгая, чорна-шэрая спадніца, такі ж світар, каралі, звязаныя ў касынку валасы здраджвалі пазафільмавае атаясамленне з галоўнай гераіняй, а можа і з цэлай цыганскай культурай. Як сама аб’ясніла, рэжысёры адмовіліся ад колераў, каб паказаць цыганоў у сапраўдным святле, вольным ад золата, бляску і спеваў у стылі Дон Васіля. Такой жа мэце паслужыла і выкарыстаная ў ім музыка Яна Канты Паўлюськевіча.

— Так, як спадарства Краўзэ, цыганоў не спартрэтаваў яшчэ ніхто не толькі ў Польшчы, але, мабыць, і ў цэлам свеце, — заўважае Йовіта.

Што, апрача сапраўднага, акцёрскага таленту паўплывала на так паспяховае ўвасабленне польскай, як сама сябе акрэсліла „пшанічна-бурачанай” жанчыны з постаццю цыганскай паэтэсы? — з такім пытаннем звярнуўся да фільмавай зоркі наш тыднёвік.

— Я апынулася ў асаблівай сітуацыі, — пачынае свой аповед. — Дзякуючы паходзячай з Падляшша маме, ромская культура была са мной ад самага пачатку. За цыганскімі табарамі мама бегала яшчэ ў дзяцінстве. З цягам часу дзіцячае захапленне пераўтварылася ў нешта больш сур’ёзнае. Пачала чытаць кніжкі, у асноўным Фіцоўскага і рускіх пісьменнікаў, збірала музычныя запісы, перш за ўсё рускіх цыганоў. Іх музыка прысутнічала ў нас штодзень, яна мне вельмі блізкая. Аднойчы мама забрала мяне на ромскі фестываль, дзе з дакладам выступіў Ежы Фіцоўскі. Там я з ім пазнаёмілася. Тады нават і не падумала, што лёс спалучыць нас у больш асаблівы спосаб. Дзякуючы маме, у мяне былі і іншыя ромскія знаёмыя, якія дапамаглі мне, між іншым, хутка вывучыць ромскую мову на патрэбы фільма. Пра творчасць Папушы я таксама добра ведала, таму падрыхтоўка аказалася нечым звычайным і натуральным.

Папуша гэта адзіная паўсюль вядомая цыганка. Пра яе пішуць кніжкі, чытаюць і спяваюць песні на яе вершы. Усё-такі для прадстаўнікоў сваёй нацыі надалей застаецца яна здрадніцай, якая прадала сябе за вершы.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Беларускі вечар у Седльцах

У асяродку культуры Прыродазнаўча-Гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах адбыўся вечар прысвечаны тэме „Жанчына ў беларускай культуры”. У мерапрыемства была папулярызатарская і мастацкая мэта.



Сустрэча пачалася з даклада д-р Беаты Валенцюк-Дайнекі, якая прадставіла аналіз выявы жанчыны ў беларускай літаратуры, фальклоры і традыцыі. Удзельнікі пазнаёміліся з біяграфіямі і выбранымі праблемамі творчасці трох беларускіх паэтэс XX стагоддзя: Ларысы Геніюш, Алаізы Пашкевіч (Цёткі) і Наталлі Арсенневай. Затым пачалася мастацкая частка, у ходзе якой прэзентаваліся вершы і песні на беларускай мове і выбраныя творы ў перакладзе на польскую мову. Выканаўцамі былі Дзмітры Кліменка, Магдалена Грунт, Тадэвуш Гоц і Дзмітры Смялякоў.

Творчасць жанчын у Беларусі недастаткова распрацаваная, — сказала „Ніве” Беата Валенцюк-Дайнека. Літаратура ў гэтай сферы яшчэ больш сціплая ў Польшчы, хаця можна ўжо заўважыць станоўчыя змены. Даследчыкі штораз больш карыстаюцца аналізам і інтэрпрэтацыяй жаночай творчасці з перспектывы як феміністычнай крытыкі гендэр, так і агульных літаратуразнаўчых і культурных аспектаў. Правядзенне вечара прысвечанага тэме „Жанчына ў беларускай культуры” было трапнай і карыснай ініцыятывай, — сказала „Ніве” адна з удзельніц вечара Ева Філіманюк. Адзначыла яна, што мерапрыемства спрычыніцца да лепшага ўзаемнага знаёмства беларусаў і палякаў. Паказвае яно шматкультурнасць з розных перспектыў. Гэта таксама цікавае культурнае здарэнне, якое выклікала зацікаўленне акадэмічнага асяроддзя, — упэўнена сказала Івона Філіманюк.

**Адам БОБРЫК**

*— Гаспадару —*

## Як выбраць парася?

Купляючы парася, звяртайце ўвагу на яго пародзістасць, здароўе. Асабліва важна праверыць стан яго лёгкіх. Хворае парася дыхае цяжка, часта, з хрыпамі. У здаровага дыханне глыбокае, без хрыпаў, кашлю. Праверце прыкус: сквіўцы жывёліны павіны быць роўнымі, добра замыкацца. Здаровае парася добра есць. Пародзістасць свіней можна ўстанавіць па форме галавы. Галава павінна быць кароткая, з прагнутым лычом, шырокім ілбом. Вушы тонкія, невялікія, прамастаячыя або навісаючыя на вочы. У парасяці павінны быць шырокія грудзі, прамая спіна, скура пругкая, без маршчын. У здаровых парасят хвост заўсёды сухі і чысты, закручаны ў пяцельку. У хворых ён апушчаны, мокры і аблезлы.

**Ясюк СТРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Снежныя падарункі са Швецыі

Ці ведаеце, што на мове Снежных людзей значыць вокліч: *Эці флеці плюх!?*

Не ведаеце? Тады трэба заглянуць у кнігу шведскай аўтаркі Эвы Суса пад загалоўкам „Снежны чалавек”. Адказ знойдзеце не проста так, а між радкамі і разам з героямі кніжкі Максам і Унам будзеце даверанымі тайны Снежных людзей. Адначасова зразумееце, што Снежныя людзі жывуць не адно ў Гімалаях, яны могуць жыць зусім побач, у якой-небудзь пячоры або вялікім дупле ў старым дубе. Хлопчыкі Макс і Уна пайшлі пакатацца на сноўбардзе і раптам, нечакана...

*...Снежны чалавек бярэ хлопчыкаў пад пахі, быццам малых зайчанятак. Туп-туп-туп! — бяжыць ён праз лес. — Ну ўсё, мы прапалі! Нас схапіў Снежны чалавек, — хвалюецца Макс...*

Што будзе далей, ці хлопцы вызваляцца з палону дзіўнага жыхара гор? Якія ў іх будуць прыгоды? І ці пра ўсё, што сустракае нас у дзіцячыя гады, можна расказаць адкрытым тэкстам? Пра гэта прачытаеце ў цудоўнай кніжцы, якую стварылі Эва Суса — аўтарка некалькіх шырока вядомых у Швецыі серый для дзяцей і падлеткаў, а таксама Бэнжамен Шо — адзін з самых папулярных аўтараў ілюстрацый дзіцячых кніг у Францыі. Пераклад на беларускую мову зрабіла Алеся Башарымава, а беларускі выпуск папоўніў серыю Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў у 2013 годзе.

Выдавец падарыў некалькі кніг для нашай рэдакцыі, іх можна выйграць у конкурсах „Зоркі”.

*(гак)*






*Габрыеля ГОЙКА,*
*Тыльвіца, ПШ у Міхалове*

## Снежная баба

*У адзін марозны дзень*
*Яська зрабіў снежную бабу.*
*На другі дзень*
*Снежная баба ажыла!*
*Яська шпацыраваў*
*Усю зіму*
*Рука ў руку*
*Са снежнай сяброўкай.*
*Але прыйшла вясна*
*І снегавая баба*
*адышла...*

*Эвеліна ШЭПКОЎСКАЯ,*
*Тыльвіца, школа ў Міхалове*

## Каты

*Каты грэюцца на сонцы*
*Заўсёды ў хаце на ганку.*
*Мой коцік мух лапае*
*І смешна мордачкай ляпае.*

(дагестанская казка)

# ЯК ЧАЛАВЕК ЗНАЙШОЎ СВАЁ ПОЛЕ

Даўно-даўно жыў сціплы чалавек. Было ў яго маленькае поле. Яно ляжала на значнай вышыні ў гарах, на месца трэба было падымацца вузкай, крутой дарожкай.

Аднойчы, з самага рання, выправіўся чалавек на сваё поле. Узяў кусок хлеба, лапату і адзеў шырокі ваўняны плашч, які дагестанцы называюць *бурка*.

Доўга ён дабіраўся на поле стромкай дарогай, аж упацеў. Тады скінуў бурку і, калі дабраўся на месца, з палёгкай шпурнуў яе на зямлю. Узяў лапату ў рукі, і...

— А дзе маё поле? — чалавек аглянуўся вакол сябе.

Усё было як раней: высокая гара, бурлівы ручай, вялікі камень. А толькі поле дзесьці знікла-прапала!

Пачаў чалавек шукаць сваё поле. Схадзіў туды, схадзіў сюды, тут паглядзеў, там паглядзеў — няма ягонага поля. Шукаў, шукаў, не знайшоў.

— Ну што за дзіва?! — уздыхнуў чалавек, — было ў мяне поле і прапала.

Набліжаўся вечар і чалавек рашыў вяртацца дамоў. Падняў з зямлі бурку, закінуў на плячо лапату і бачыць... яго поле зноў ляжыць на сваім месцы.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Загадкі з роднай хаткі

## Увага, конкурс!!! (№ 52-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 11 студзеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Палюбуйся, што за рост,
грыва доўгая і хвост!
Вунь вушамі як стрыжэ,
капытом б'е
ды іржэ.
К...

(Н. А. Сторажава)

**2.**

Ні тых дошчак, ні цвікоў —
Мост ляжыць між берагоў.
Што за мост? А будаўнік —
Дзед вядомы чараўнік
М....

(Н. Парукаў)

**3.**

Што зімою
камялём
уверх расце?
Л.....

(Н. Гілевіч)

Адказ на загадкі № 48-4: лось, ноч, бурак.

**Узнагароды, кніжкі Сары Лундберг „Віта Белая Крэска і Эйвінд” (на беларускай мове) выйгралі Мартына Чаляеўская з Нарвы, Кацпар Кечынскі і Раксана Івацік з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# Восень ім не страшна!

Калі восеньскія дні яшчэ цёплыя, лясы, паркі і агароды робяцца вясёлымі ад чырвона-жоўтых колераў лісці. Яны шамацяць пад нагамі і лётаюць, калі павее восеньскі ветрык. У агародчыках бабулек яшчэ квітнеюць іх любімыя вяргіні і астры. Рабіна чырванее на дрэвах і мігаціць у апошніх цёплых праменях сонца. Аднак пазней прыходзіць непагода, слата. Чорныя лужыны адбіваюць у сабе штораз больш аголеныя з лісці дрэвы. Тады сапраўды цяжка любіць восень. Дзеці з Пачатковай школы № 4 у Беластоку, хаця ўрачыста развітваліся з гэтай парой года, даказалі, што нават калі за акном цёмна і бубніць дождж, яны ўмеюць зачараваць атмасферу восеньскімі песенькамі і гульнямі. Пераканаліся аб гэтым бацькі, якія недаверліва прыглядаліся весёлым тварыкам дзяцей.





Варта адзначыць, што вучні, гуляючы ў загадкі пра восеньскую агародніну, якую працавітыя гаспадыні даглядалі ад вясны, звярнулі ўвагу на вельмі важную рэч. Вось менавіта з даўніх часоў восень была самым радасным перыядам года. Нашы прадзеды з беларускіх вёсак, маючы поўную спіжарню гарбузоў, морквы, фасолі ці бульбы, цешыліся не менш, чым дзеткі з „чацвёркі” пасля правільнага адказу на восеньскую загадку.

Вучні праз забаву і песні таксама даказалі, што вельмі многаму навучыліся на занятках беларускай мовы на працягу трох восеньскіх месяцаў. Сур'ёзным выклікам для дзетак былі гульні-практыкаванні з граматыкі беларускай мовы. Аднак вучні не бачылі тут вялікай праблемы. Адзін з хлопцаў прыйшоў да высновы, што гэта ўсё „прооооста!”.

Доказам на тое, што вучні паразілі восеньскім аптымізмам і энергіяй дарослых было супольнае спяванне. Хаця на пачатку бацькі няўпэўнена мурлыкалі пад носам, з кожным рэфрэнам адважней паўтаралі за дзецьмі словы песенькі, якая не магла не выклікаць усмешкі на твары, хаця вечар быў цёмны і халодны.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Вершы Віктара Шведа

## Характарыстыка

Дырэктар установы
Звольніў Яна з працы.
Захацеў абавязкова
З ім развітацца.

— Ты мне быў быццам сынам,
Лянівым паяцам,
Бессаромным няспынна,
І нястомна няўдзячным.

## Устаўце мне зубы

Бабулю сямейнікі просяць
Каб была менш цікавай,
Каб перастала выносіць
Навонкі сямейныя справы.

— Ты, бабуля павінна
Трымаць язык за зубамі.
— А я прашу вас няспынна:
Устаўце мне зубы таксама.

## Што было раней?

Дзедку запытаў Андрэй
(Хіба не абурыцца)
— Скажы, што было раней,
Яйка або курыца?

Калі яйка, дык хто знёс
І ў які часе?
Які гэтай куркі лёс,
Адкуль яна ўзялася?

## Хто захоча?

— Калі не будзеш паслухмяны, —
Пастанавіла матка, —
Цябе абменім нечакана
На лепшае дзіцятка.

— Хто ж быць хоча
пакараным,
Дарагая маці,
Такім страшным хуліганам
Як я ў нашай хаце?

# ЛІСІЦА І САБАКІ

*(беларуская казка)*

Бегла лісіца па полі. Раптам выскачылі сабакі і пачалі яе гнаць. Лісіца ледзь паспела ўцячы ад іх вострых зубоў ды схавалася ў сваёй норцы.

Сядзіць яна ў нары і сама да сябе кажа:

— Вушкі, а вы мае вушкі, — а што вы зрабілі?

— Мы слухалі, вушы вастрылі, каб сабакі лісічку не з'елі.

— Ножанькі, а вы мае ножанькі, — а што вы зрабілі?

— Мы беглі, гналіся ледзь сіл, каб сабакі лісічку не дагналі.

— Вочкі, а вы мае вочкі, — а вы што зрабілі?

— Мы глядзелі, сачылі, каб сабакі лісічку не з'елі.

— А хвосцік, мой ты хвосцік, — што зрабіў?

— За траву, за кусты зачапляўся.

— Ды ты такі! А ну цябе, хвасцішча, выматывай з маёй хаты.

Лісіца выкінула хвост з нары, а сабакі толькі таго чакалі. Ухапілі за хвост і выцягнулі лісіцу з нары. Вось які канец дурным хітрыкам і калькуляцыям!

*(гак)*

Матэвуш БУРАЧЭЎСКІ
ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

# Тры запаведзі

Тры запаведзі паводле мяне.

Вядома, што Бог наказаў нам жыць паводле дзесяці запаведзей. Я стараюся жыць так як хоча Бог. Але ў мяне ёсць і ўласныя запаведзі:

1. Будзь добры для іншых людзей, тады і Ты атрымаеш ад іх дабро.
2. Калі кагосьці просіш, скажы „калі ласка”, тады і Ты неаднойчы пачуеш „дзякую”.
3. Спявай і танцуй, бо без музыкі і гульні няма жыцця!

# Польска-беларуская крыжаванка № 52

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 48:**

Меч, карта, вагон, Об, мабілка, дата, стан, шаша. Моц, вада, набат, гіт, кола, банк, ара, то, кабыла.

Узнагароды, аўтаручкі-карэктары, выйгралі **Іаанна Нікіцюк, Магда Рошчанка, Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Дам'ян Іванюк, Габрыела Карбоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Рафал Новік, Уля Марчук, Магдалена Стоцкая, Наталля Лукша** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Namiot |
| | Śnieg / Jadło | | Karma / Ada | | Ochrona | | Bo | |
| | | | Przecho-dzień | | | | | |
| | Śniadanko / Klasa | Pole | | Postać / Rodzaj | Kosa | | | |
| Książka / Ślina | | | | | | | Wół | |
| | | | | | | | | |
| Awans | | | | | | | | |
| Sekre-tarz | | | | | | | | |

# Рэжысёр з арлянскай сям'і



**Інтэрв'ю з Тамашом Ляшчынскім, рэжысёрам, які рыхтуе ў беластоцкім Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі прэм'еру п'есы Майкла Фрэйна «Чаго не відаць».**

**Мацей Халадоўскі: — Прабач за гэтае пытанне на ўступе, але з якіх Ты Ляшчынскіх, бо я чуў, што?...**

**Тамаш Ляшчынскі:** — ... Тых з Орлі. Мой бацька — Багдан Ляшчынскі. Адзін з маіх дзядзькоў — Юры Ляшчынскі, журналіст, праграмны дырэктар Радыё Рацыя. Другі — гэта Васіль Ляшчынскі, былы дырэктар Комплексу школ з дадатковай навукай беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. А, напрыклад, сваяком маіх дзядзькоў і бацькі быў кінематаграфіст Мікалай Нестаровіч, гэта па іх маме.

**— Ці Твая беларускасць нейкім чынам дапамагала ці замінала на шляху ў вялікі свет мастацтва?**

— Не дапамагала, і не перашкаджала. Мне 34 гады, і толькі цяпер я заўважыў (гэта сумна, але, верагодна), што беларусы, якія жылі вакол Беластока і даставаліся сюды, адціналіся ад сваёй беларушчыны, у першую чаргу ад мовы. Я сам разумею беларускую мову, але штодзень ёю не карыстаюся. Вядома, калі б ужо мусіў, дык гаварыў бы. Я проста не мушу карыстацца ёю кожны дзень. Я збіраюся ехаць у Беларусь, буду там ставіць спектакль на беларускай мове, дык прыгадаю сабе мову. Я ва ўсіх вядомых мне беларусаў заўважыў, не толькі ў сябе, што момант пераезду ў горад быў таксама момантам парвання з мовай. Вядома, я кажу не пра ўсіх беларусаў. Ведаю многіх такіх, хто парваў з мовай і ўсё надалей адчуваў сябе беларусам, напрыклад, не адыходзілі ад праваслаўнай веры. Магчыма, гэтак было ім зручней. Гэта можа прагучаць радыкальна, але Беласток мае велізарны комплекс рускасці, нават не самой беларускасці — таго, што ў Польшчы можа ўспрымацца як горад не да канца польскі, хаця так не ёсць. Калі мне было 19 гадоў, я з'ехаў адсюль, а потым залятаў сюды да бацькоў толькі на імгненне, не лічачы кароткага эпізоду, калі мы жылі тут з жонкай. Тады я гэтага не адчуваў. Толькі цяпер, калі я вярнуўся на даўжэйшы час, я асабліва гэта адчуваю, параўноўваючы Беласток з іншымі гарадамі ў Польшчы. Мая жонка — з Расеі. Дома мы гаворым па-руску. У любым публічным месцы ў Польшчы не было праблемы, калі мы размаўлялі па-руску, нават калі пачаліся падзеі ва Украіне і ў Польшчы ў адносінах да Расеі стала царыць асаблівая падазронасць. Нідзе ў Польшчы гэта не выклікала здзіўлення, аднак у Беластоку — так.

**— Як малады беларус, выхаваны на беластоцкіх Дзесяцінах і Засцянках, трапіў у тэатр? Адкуль тэатр у Тваім жыцці?**

— Я заўсёды хацеў быць інжынерам, і я пайшоў у гэтым кірунку. Я вывучаў асабліва матэматыку, фізіку, гуманітарныя прадметы разглядаў як дадатковыя. У ліцэі я скончыў клас з матэматычна-фізічным ухілам. І ў нейкі момант, яшчэ ва ўзросце 15-16 гадоў, нешта ўва мне збунтавалася. Паралельна вырашыў пашукаць чагосьці, чаго не ведаю і чаго не было вакол мяне, таму што такіх вялікіх мастакоў — за выключэннем Мікалая Нестаровіча — у маёй сям'і ў прынцыпе не было, хаця мой прадзед вёў школьны лялечны тэатр у Орлі. У любым выпадку, я не паходжу з так званай артыстычнай сям'і. Так вось я пачаў шукаць нейкі іншы шлях, а мастацтва пацягнула мяне, як большасць маладых людзей. Мне здавалася, што гэта штосьці экзатычнае, адрознае ад свету бацькоў. Мой бацька філолаг па адукацыі, але працаваў у бізнесе, а мама — лекар. Я вучыўся ў музычнай школе, але не ішло мне там добра. Я не ўмеў рысаваць. А тэатр быў нечым таямнічым. Дарэчы, ёсць жарт, што калі ты нічога не ўмееш, ідзі ў тэатр. Мабыць, са мной тады так сама было. У маёй школе дзейнічаў тэатральны гурток і з цікаўнасці я запісаўся да яго. Я меў нават поспехі ў дэкламатарскіх конкурсах і на фестывалях аматарскіх тэатральных труп. І неяк пайшло. Першы кантакт з тэатрам я меў як малое дзіця-глядач Беластоцкага лялечнага тэатра. Я памятаю, як у спектаклі, на якім я быў там у той час, акцёру ўбівалі ў спіну сякеру. Мне было тады каля трохчатырох гадоў, і гэтая сцэна мяне вельмі ўсхвалявала. З людзьмі тэатра, з якімі я размаўляў, ёсць так, што тыя першыя моцныя сцэны, убачаныя ў жыцці ў тэатры, застаюцца на доўгі час. І так, мабыць, і было са мной. Можа таму я ўжо ў акадэміі паставіў «Злачынства і пакаранне» Дастаеўскага. Канчаючы ліцэй, я вырашыў, што, буду паступаць на акцёрскі факультэт. Гэта выклікала шок у бацькоў, таму, што яны думалі, што я ўсё ж буду рабіць у жыцці штосьці іншае. Былі нават спрэчкі паміж намі і спробы схіліць мяне ў іншы бок. У тэатральную акадэмію ў Беластоку я не стартаваў, а ў Варшаву не дастаўся, прагарэў пасля трэцяга этапу. Трапіў у Акцёрскую студыю, якую пры Драматычным тэатры імя Стэфана Ярача ў Ольштыне вёў мясцовы ўніверсітэт. Выкладала там Магда Заорская, якая ў першай палове 90-х гадоў скончыла акцёрскую вучобу ў Акадэміі тэатральнага мастацтва ў Санкт-Пецярбургу. І так ад размовы да размовы з ёю на тэму майго будучага штудзіравання я аформіў сабе стыпендыю на рэжысуры якраз у пецярбургскай тэатральнай школе.

**— Ці пецярбургская школа рэжысуры, генеральна расейская мадэль тэатральнай школы ў краінах былога Савецкага Саюза, адрозны чым у Польшчы падыход да рэжысуры, выклікалі праблемы пры працы ў польскіх тэатрах, з польскімі акцёрамі?**

— Я быў на акцёрска-рэжысёрскім курсе. Акцёры і рэжысёры на працягу аднаго года рыхтаваліся да прафесіі. Гэта асноўны плюс у будучай рэжысёрскай працы. Менавіта там гаварылася пра выхаванне акцёра або рэжысёра, а не адукацыі. І на самой справе штудзіраванне не зводзілася да шэрагу прадметаў, з якіх трэба было мець толькі залік. Майстар, які вёў курс, фактычна ўзгадоўваў, фармаваў нашыя студэнцкія індывідуальнасці. У польскай школе рэжысуры з кожным з выкладчыкаў прафесіі маецца трохі дачыненне, а з акцёрскім заняткамі — найменш. Падрыхтоўка да акцёрскай і рэжысёрскай прафесіі ў Польшчы сур'ёзна раздзелены, па меншай меры ў тэатральных школах у Варшаве ці Кракаве, хаця ў Тэатральнай акадэміі ў Беластоку трохі менш. Мабыць таму, што ў Польшчы ёсць такая адлегласць паміж рэжысёрамі і акцёрамі. Геаграфічна шырока разуметая расейская школа рэжысуры ставіць, галоўным чынам, на працу з акцёрам. Яе недахопам з'яўляецца тое, што крыху забываецца пра фармальны, пастановачны бок рэжысёрскай працы над спектаклем. Генеральна, калі справа ў падыходзе да рэжысёрскай працы, атрымлівецца вялікая розніца. Ведаю гэта па працы ў тэатрах у Азербайджане і Грузіі, якія знаходзіліся пад уплывам расейскай тэатральнай школы, і дзе менталітэт людзей далёкі ад расейскага. Але заўсёды, тут ці там, рэжысёр пасля яго прыбыцця ў тэатр павінен спачатку «перацерціся» з гуртом, ён павінен перш за ўсё пазнаёміцца з акцёрамі, каб зразумець іх.

**— А як Ты трапіў у «Вянгерку»?**

— Як толькі дырэктарам гэтага тэатра стала Агнешка Карыткоўская-Мазур, я вырашыў патэлефанаваць ёй з прапановай паставіць спектакль. Першы сезон быў ужо запланаваны. На пачатак запрапанавала мне прыняць рэжысёрскі ўдзел у чытанні «Цяжкіх часоў» Міхала Балуцкага ў рамках тагачаснага цыкла «(Рэ)інтэрпрэтацыі. Сляп чытанняў». Тады мы пачалі размовы аб маім поўнафарматным спектаклі. У яе былі прапановы, у мяне свае.

**— І чаму Ты рэжысёр якраз «Чаго не відаць»?**

— Гэта было нашае сумеснае са спадарыняй дырэктар рашэнне. Я шукаў матэрыялу, які гаварыў бы пра тэатр, адбываўся вакол сцэны, казаў пра тое, што адбываецца за кулісамі. Мы разгледзелі даволі шмат матэрыялу. У мяне было шмат расейскіх прапаноў, але стала на брытанскім фарсе. Можа, і добра так сталася, што раблю гэтую п'есу, таму што, нарэшце, я адарваўся ад расейскага рэпертуару. Калі я да гэтага часу рабіў штосьці ў Польшчы, гэта быў якраз расейскі рэпертуар, а калі ў Расеі, дык штосьці з польскага. Ужо пачаў адчуваць некаторыя клішэ.

**— А чаму б не штосьці з беларускай драматургіі?**

— Таму што няма практычна ніякай як такой беларускай драматургіі. Зараз рыхтуюся паставіць у Мінску драму беларускага драматурга Мікалая Рудкоўскага, які напісаў яе ў рамках стыпендыі Gaude Polonia (стыпендыя польскага Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны — М. Х.) і адбываецца яна ў Польшчы, Беларусі, Вялікабрытаніі, Канадзе і Расеі. У мяне была ідэя зрабіць яе ў вялікай польска-расейска-канадска-беларуска-ірландскай сумеснай вытворчасці. Тым не менш, гэта патрабавала б шматлікіх працэдур. У нас была задума, каб мне ў Беластоку паставіць драму Рудкоўскага «Дажыць да прэм'еры», але не хацелі паказваць у Польшчы як ёсць смешна ў Беларусі, калі ў польскім тэатры можна паказаць, як смешна ёсць у нас. Нават Рудкоўскі згадзіўся, каб пераўтварыць яе на польскія ўмовы. У канчатковым рахунку, аднак, стала на тым, што зрэалізую п'есу Майкла Фрэйна. Усе вядучыя драматургі ў Беларусі пішуць па-руску: Мікалай Рудкоўскі, Павел Пражко ці Зміцер Багаслаўскі. Ёсць аўтары, якія пішуць па-беларуску, але да Польшчы яны ўвогуле не даходзяць. У беларускім тэатры беларуская мова выштурхваецца на абочыну. Многія аўтары, якія пішуць на рускай мове, магчыма, тлумачаць іх на беларускую мову.

**— І ў канцы я не магу спытаць у Цябе, як ты сустрэў сваю будучую жонку Алену, адну з зорак польскага кіно, вядомую па сваёй ролі Нанэ з фільма «Малая Масква» (атрымала за яе ў 2009 годзе польскую фільмавую ўзнагароду ў намінацыі Адкрыццё года), і ролі Людмілы ў серыяле «Фарбы шчасця» і персанажаў з іншых серый, такіх, як «Аіда», „Na dobre i na złe", „Лонданцы" ці «Плябанія»?**

— Тут удакладню: Алена спачатку сустрэла мяне, а пасля стала зоркай (смяецца — М. Х.). Разам мы вучыліся ў Санкт-Пецярбургу, і з таго часу мы разам. Пасля я прывёз яе ў Польшчу, хоць гэтага мы і не планавалі, таму што спачатку мы думалі, што застанемся ў Санкт-Пецярбургу, дзе ў яе была кватэра. Затым адправіліся мы ў Злучаныя Штаты. Раней, калі мы былі ў маіх бацькоў, падала яна сваё партфоліо ў адно з акцёрскіх агенцтваў, якія дзейнічаюць у Варшаве і, калі мы дабраліся да Злучаных Штатаў, была запрошана сыграць у Польшчы ў фільме. Так што ў Польшчу мы прыехалі з-за яе. У пачатку было цяжка, таму што яна не ведала польскай мовы. Польскую мову стала авалодваць на фільмавым плане і ўжо размаўляе на ёй свабодна. У Варшаве скончыла Акадэмію мастацтваў і да «Чаго не відаць» робіць сцэнічнае афармленне і гэта будзе яе трэцяя тэатральная сцэнаграфія пасля Азербайджана і Іркуцка.

**— Дзякую за размову з нагоды Тваёй маючайся адбыцца прэм'еры ў Беластоку: Ни пуха, ни пера!**

— К чёрту!

Размаўляў **Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Тамаш Ляшчынскі** нарадзіўся ў Беластоку. З'яўляецца не толькі рэжысёрам, але і акцёрам, перакладчыкам. У 2000-2005 гадах вучыўся на драматычным факультэце ў Санкт-Пецярбургскай акадэміі тэатральнага мастацтва. Як акцёр працаваў з тэатрамі ў Санкт-Пецярбургу, Маскве і Нью-Йорку. У цяперашні час жыве ў Варшаве. На працягу некалькіх гадоў быў рэжысёрам у Расеі, Грузіі, Азербайджане. Паставіў, між іншым, «Злачынства і пакаранне» Фёдара Дастаеўскага (Санкт-Пецярбург, незалежная пастаноўка), «Беньяміна» Радаслава Пачохы (Грузінскі Нацыянальны тэатр імя Шота Руставелі, Тбілісі.), «Пах» Рока Фаміляры (Тэатр «У Моста», Перм); «Паліцыю» Славаміра Мрожка (Маскоўскі тэатр «На Таганцы»). «Чаго не відаць» у яго рэжысуры з'яўляецца самай папулярнай камедыяй брытанскага драматурга Майкла Фрэйна. Была напісана ў 1982 годзе, а ў наступным годзе мела сваю прэм'еру на Брадвеі. З гэтага часу і да сёння забаўляе публіку па абодва бакі Атлантычнага акіяна. Аўтар выкарыстаў ідэю з Шэкспіра прыём «тэатра ў тэатры», калі рэальнасць і выдумка складаюць быльтаніну пацешных непаразуменняў. Прэм'ера п'есы запланавана на 3 студзеня. Аднак спектакль да прэм'еры можна ўбачыць ужо 27 і 28 снежня ў 18.00 гадзін і ў рамках «сільвестра» ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі (20 гадзіна).

# ПАЎЗ БОБРУ

**Парадоксы, здавалася б, здараюцца не ў нас, а ў нейкіх экзатычных закавулках нашай планеты. Але і нашы справы не лыкам шыты ў гэтым плане. Вось, для прыкладу, цэны чыгуначных білетаў могуць задзівіць карыстальніка паездак цягнікамі. Я ўжо быў нейкі час таму пісаў пра значна таннейшы білет у далейшыя ад Беластока Монькі, чым у бліжэйшы чыгуначны прыпынак Кнышын. Але ж вось цалкам нядаўна выбраўся я ў падарожжа цягнікам у Астроўе, што на чыгуначнай лініі між Дубровай і Аўгуставам. У білетнай касе пацікавіўся я, ці ў Аўгустаў будзе танней, чым у тое Астроўе. І даведаўся, што яшчэ танней у Сувалкі, якія па вельмі спрошчаным рахунку ў два разы далей за Астроўе...**

Астроўе зараз за Бобрай, яшчэ на старой чыгуначнай лініі, што злучала колішнія губернскія Гродна і Сувалкі. Ці ў той „губернскі" час быў там прыпынак, не ўмею здагадацца, бо ж і станцыйны будынак у Астроўі не такі элегантны, якія ставілі ў царскі час — пастаўлены ён пасля пракаціўшыхся сюдою сусветных войнаў. Бо ж тут, на Бобры, так у час Першай, як і ў час Другой сусветных войнаў былі ладжаны стратэгічныя лініі абароны. У савецкі час уздоўж менавіта левага ўзбярэжжа Бобры былі ўзведзены фартыфікацыі лініі Молатава; пабачыць менавіта тыя ўмацаванні і выбраўся я ў тое далекаватае старонне.

Са станцыі Астроўе дарожны інфарматар паказвае, што ў Дуброву адтуль дванаццаць кіламетраў. Ад станцыі да рэчкі каля кіламетра. На дарозе захаваўся стары, вузкі брукаваны насціл, але дарога была пашырана жвіровай дасыпкай і цяпер пабач бруку там таксама гравейнае палатно. Перад мостам гэтыя палотны быццам раздзіраюцца і далей ужо толькі жвіроўка. Зараз за мостам звочваю дарожку ўправа...

Інтэрнэт-даведка: 68-ы Гродзенскі ўмацаваны раён (ГУР) у наваколлі Гродна будаваўся ў перыяд лета 1940-1941 згодна з планам прыкрыцця новай дзяржаўнай мяжы (1939). Генеральны план работ прадугледжваў збудаванне 1-й лініі ўмацаванняў у 1940-1941, 2-й лініі — у перыяд да 1945. Мусіў займаць фронт 80 км, ад Нёмана на ўсходзе ад г. Сапоцкін і да в. Ганендза, з глыбінёй абароны 5-6 км, і складацца з 606 дотаў, аб'яднаных у 3 вузлы абароны (#1 Сапоцкінскі (р-н Галавенчыцы-Маркаўцы), #2 Багатыры-Ліпск, #3 Старая Каменная-Трырэчкі) і 2 асобныя апорныя пункты. Паводле планаў — самы моцны з чатырох умацаваных раёнаў Заходняй асобай ваеннай акругі. Аперацыйна-тактычная задача: прыкрыццё, супольна з палявымі войскамі, кірункаў Гродна-Ваўкавыск і Гродна-Беласток з боку Усходняй Прусіі. Фактычна на пачатак вайны на Усходнім фронце (22.6.1941) ГУР складаўся з 37 узброеных дотаў (з 98 збудаваных у 1940). На дату пачатку вайны ўмацаваны раён быў недабудаваным, недаўзброеным і недакамплектаваным асабовым саставам. Гэта, сукупна з няўдалым размяшчэннем УР адносна дзярж. мяжы, прывяло да таго, што меркаваных функцый па абароне ГУР не выканаў. Пераважная частка дотаў аказалася пустой, а доты, занятыя гарнізонамі, былі абыйдзены, блакіраваны, і паступова знішчаны. Некаторыя гарнізоны абараняліся да 27.6.1941. Для падрыхтоўчых прац у 1940-1941 шырока мабілізоўвалася мясцовае насельніцтва Аўгустоўскага, Гродзенскага, Дамброўскага, Кнышынскага, Скідзельскага, Саколкаўскага і Сапоцкінскага раёнаў.


Хата сям'і Кулакоў у Кударэўшчыне


Каплічка каля Трырэчак

Вось менавіта тая дарожка ўправа, ад задворкаў Каменнай-Новай у бок Трырэчак, мела паводле майго ўяўлення пралегчы пасярэдзіне названага раней трэцяга вузла абароны Гродзенскага ўмацаванага раёна, дзе спадзяваўся я пабачыць хаця з дзясятку бетонных памятак ад апошняй тут вайны. Але як я ні ўглядаўся, усё бачыў толькі мірны лясны краявід, як узявіў мясцовы паэт: „Сёння рана Бог напісаў белы ліст снежным пухам засціладючы штодзённасць Пакідаю за сабою далікатныя сляды яшчэ зоркі кружацца часам якая ападзе каб здзейсніць мары Іграе цішыня а я ўсё яшчэ ахунаюся ў сон". Сапраўды дарога вядзе цераз праснежаны чароўны лес, быццам па духмяных салонах нейкага казачнага срэбрнага палаца — ніякіх учарнелых бетонных чалавеча-чартоўскіх выдумак там не відаць. Неўзабаве паказваецца высокі драўляны крыж, знак чалавечай прысутнасці — канец казкі... Канчаецца лес і паказваецца белым пухам засланая штодзённасць. Драўляная каплічка, пастаўленая ў 1943 годзе, з абапертай на ёй драўлянай агароджай і з выразаным у фундаменце маленнем „**Pod Twoją obronę uciekamy się św. Boże / Rodzicielko naszemi prośbami nie racz gardzić potrzebach naszych**". І далей чыгунны крыж у прытуленай да масцітай таполі агароджы. У вёсцы будзе мураваная каплічка.

Сама вёска Трырэчкі пачынаецца не адразу. Спачатку некалькі хутароў, а пасля і невялікае скапленне памяркоўных мураванак. Пасярэдзіне драўляная хата з забітымі дошкамі вокнамі, да якой кіруецца пара; маладая з выгляду жанчына нясе бутэльку піва. Пытаю іх пра прысутнасць у наваколлі фартыфікацыйнай спадчыны. Сімпатычны мужчына інфармуе, што ў лесе ёсць бункеры, толькі прыхаваныя ад вонкавых цікаўнікаў. Але далей, у бок Малавісты, яны пакажуцца. І сапраўды, у полі між Трырэчкамі і Малавістай паказваюцца два пачарнелыя бетонныя паралелепіпеды. А неўзабаве і вёска Малавіста. Калі запрасіць у інтэрнэце гэтую назву, пакажуцца фармальныя інфармацыі ды прозвішча народжанага там ксяндза Яна Філевіча, аўтара прыведзеных раней паэтычных радкоў. Але не на „простай" мове ён піша, адно на „панскай", бо ж некаторыя тэолагі шмат атраманту пралілі даказваючы, што грамадская іерархія ўстаноўлена Усявышнім і такім чынам паны бліжэй Бога чым мужыкі. Ксёндз Філевіч каецца, магчыма, што і за гэта: „Дзень мінае ноч падпаўзае сон тужыць А звычайны дзень абсцібрыў мяне з прыгожых слоў ды цудоўных мараў і думак Не ўспеў я звочыць усіх Божых дараў". Радавы ж святар — пад камандаваннем вышэйшых рангаў, як у арміі, як ва ўмацаваным раёне. Сама вёска Малавіста выглядае даволі празаічна.

У Звярынцы-Вялікім з часу, калі я быў там тры гады таму, змена на лепшае: гібеючы тады будынак старой школы сёння абноўлены і выглядае даволі шыкоўна. Са Звярынца-Вялікага кіруюся ў бок Кударэўшчыны... Інтэрнэт-даведнік: „Кулак Казімір (1896-1989), каталіцкі святар заходняга абраду, доктар тэалогіі, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, удзельнік беларускага хрысціянскага руху 20 ст., душпастыр, педагог, актывіст беларускага студэнцкага руху міжваеннага дваццацігоддзя, прыхільнік беларускага вуніяцтва. Нарадзіўся 26.03.1890 у в. Кудзераўшчына Сакольскага павета Гарадзенскай губ. Паходзіў з сялянскай сям'і: бацькі — Вікенцій і Разалія (з дому Фалевічаў) Кулакі. Скончыў Дуброўскую вышэйшую пачатковую навучальню (07.06.1914). З 1915 г. — клерык Віленскай духоўнай семінарыі. Пасвячоны ў святары 30.05.1920. З 1923 г. служыў вікарыем у парафіі Трокі і адначасова выкладаў Закон Божы ў мясцовай школе. З беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам звязаны з часоў вучобы ў Віленскай семінарыі. Вучыўся ў папскім Усходнім інстытуце ў Рыме, дзе ў 1927 г. паспяхова абараніў доктарскую працу на тэму «Псіхалогія вяртання да каталіцтва Мялецця Смятрыцкага, біскупа Полацкага». Пад час вучобы ў Рыме падараваў Папскай бібліятэцы ў Ватыкане «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага. Перапісваўся з беларускім святаром Уладзіславам Талочкам. У лістах да В. Ластоўскага палемізаваў у сувязі з прапановай апошняга «стварыць сваю ўласную веру». Пасля вучобы вярнуўся ў Пінскую дыяцэзію, дзе працаваў прафесарам расейскай мовы ў мясцовай духоўнай семінарыі. Кіраваў вуніяцкім сектарам. У 1933 г. — у Варшаве: выконваў абавязкі сакратара біскупа Мікалая Чарнецкага. Прадстаўлены ў Ватыкане як кандыдат у папскія прэлаты, аднак прэлатуры не атрымаў. Магчыма, не апошнюю ролю ў гэтай справе адыгралі дзве істотныя акалічнасці: прыхільнасць да вуніяцтва і паслядоўная падтрымка беларускага нацыянальна-рэлігійнага руху. У 1940-я гады праводзіў душпастырскую дзейнасць у Ляндварове і Тургелях Трокскага дэканата". Польскія крыніцы не згадваюць пра дзейнасць ксяндза Кулака на беларускай ніве, аднак і там ёсць адна красамоўная зноска: „**W latach 60. przyjechał do księdza sowiecki pułkownik Afonin i zaproponował mu pośredniczyć w rozmowach między Watykanem a władzami w sprawach Kościoła katolickiego na Białorusi. Ksiądz postawił warunek Afoninowi, żeby dał mu pisemne przyrzeczenie, iż nie będzie się sprzeciwiał otwarciu seminarium duchownego w tej republice. Pułkownik nie zgodził się na to i rozmowa się skończyła**".

Вёска Кударэўшчына невялікая. Пасярэдзіне яе шыкоўная хата, з вонкавага віду неабжытая, а перад ёй мураваная каплічка з надпісам: „**Pamiątka pobytu na tem miejscu rodziny Kułaków r. 1935**". Магчыма, што ўжо ў той час хата Кулакоў у Кударэўшчыне пуставала. Пасрэдным сведчаннем гэтаму намагільнік у Ляндварове з эпітафіяй „**Kułak Wincenty, 1861-1939 Kochanemu Ojcu poświęca syn Ks. Dr. Kazimierz Kułak, proboszcz landwarowski. Requiescat in Pace**". Мабыць на схіле 1930-х гадоў бацька жыў ужо ў сына на плябаніі. Цікава, ці маці Разалія не была з той самай сям'і, што і ксёндз Філевіч — прозвішчы іх амаль ідэнтычныя... Ды і ксёндз Казімір Кулак прысвяціў сваймі ляндвараўскаму касцельнаму вершаваную эпітафію „**Za usługi przy ołtarzu Niech Cię Bóg niebem obdarzy**".

Зараз за Кударэўшчынай убачыў я тое, чаго шукаў між Каменнай-Новай і Трырэчкамі — тры бетонныя доты. У жвіровым кар'еры паміж дотамі — лавачкі вакол сапялелага вогнішча... Мабыць мелі доты стаць элементам той глыбіннай абароны ў 5-6 кіламетраў, бо ж ад іх да лініі Бобры акурат пяць кіламетраў. Ад іх падаўся я шукаць шашы ў напрамку Дубровы і выйшаў на жвіроўку, якая павяла мяне назад, у напрамку Звярынца-Вялікага. Усё ж такі ўдалося ўзяць правільны азімут, на Звярынец-Малы. У канцы гэтай невялікай вёскі побач высокага лацінскага металічнага крыжа звочыў я невялічкі намагільнік з крыху нетыповым візантыйскім крыжам. Як даведаўся я ў найбліжэйшай хаце, была там брацкая савецкая магіла. Пасля вайны жаўнераў перапахавалі на савецкія ваенныя могілкі ў Саколцы, але адзін салдат нейкім чынам астаўся; і вось яму гміна паставіла той намагільнічак. Ксёндз Філевіч: „Калі сузіраю аблокі і вецер як закалыхаў мае мары гайданья ў аблоках тады шчаслівы паўтараю Deo gratias".

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Успамін цёткі Надзі

**Успамінае 91-гадовая Надзея Сахарчук, жыхарка вёскі Маліннікі Арлянскай гміны.**


фота Уладзіміра СІДАРУКА

— Нарадзілася я ў 1923 годзе ў Пашкоўшчыне. Бацькамі былі Яўфім Цэтра і Сафія з роду Рэцька. Дзедкамі па бацьку былі Раман і Антаніна з Кашалёў, па матулі — Рыгор і Антаніна. У дзевяць гадоў Яўхіму памёр бацька, наш дзядуля Раман. Бацька падрастаў пры матулі. У яго былі тры браты: Сцяпан, Міхась і Даніла. Яўфім быў самы малодшы. Браты жанатыя. У 1915 годзе, як набліжаўся нямецкі фронт, дык бацюшка ў царкве казаў:

— Уцякайце... Германец падходзіць... Людзей казніць...

Бацьку тады было пад васямнаццаць. Збіраўся жаніцца з Сафіяй. У Пашкоўшчыне лічылі іх парай. Сафія з бацькамі ў бежанства падаліся з першымі ўцекачамі. Татуль паехаў следам шукаць нарачонай. Выязджаў з матуляю і старэйшымі братамі, ды Сцяпанам і Харытонам Стасюкамі. У Харытона было двое дзетак: Іван і Сімка. Пашкоўшчына апусцела. Засталіся тры сям'і. Дабраліся яны да Пінскіх балот. Дарога грузкая, дрыгвістая. Коні западалі ў балота. Памерла бабуля Антаніна, бацькава маці. Там і пахавалі.

Прыстань знайшлі ў вёсцы Грузкое Канатопскага раёна Сумскай вобласці. Сяло вялікае, з царквою і поштай. Непадалёк была чыгуначная станцыя. Бацька ўладкаваўся на працу старажам у мясцовага садоўніка. Гаспадары былі багатымі. Мелі вялікі дом. Шыкарна апраналіся. Вопратку і бялізну шылі самі. Бялізна заўжды была чысценькая і акуратна выкачана. Брудную ўкідалі ў драўляную кадзь, затым залівалі кіпенем і мылі. Паласкалі ў рэчцы, а ў зімовы час — у праломках. Мёрзлыя рукі абагравалі прынесеным з дому кіпенем. Прасохлую бялізну качалі качалкамі. Мясцовых жыхароў называлі чувашамі. Да бежанцаў ставіліся яны акуратна, запрашалі ў госці. Неўзабаве бацька адшукаў Сафію. Пажаніліся. Шлюб бралі ў бурлівыя дні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вянчаліся ў царкве ў Грузкім. З таго часу захавалася шлюбная ікона. У 1919 годзе нарадзілася ім дачушка Кацярына, мая старэйшая сястрыца...

Пасля рэвалюцыі перамянілася ўлада. Насталі бальшавікі. Пачалі раскулачваць багацейшых гаспадароў. Забіралі ім усё. Людзі цярпелі ад голаду ды холаду. У 1921 годзе Яўфім з Сафіяй і Кацяй рашыліся вярнуцца дамоў. На фуру, запрэжаную ў пару коней, загрузілі два куфры, бардовы і зялёны, ды неабходныя для падарожжа рэчы. Сафія, матуля, значыцца, была цяжарнай. Бацькі прасілі Усявышняга, каб дазволіў шчасліва даехаць дамоў. І тут здарылася прыгода. На рэчцы, да якой пад'ехалі, быў пракладзены пантонны мост. Праезд быў вузенькі. Калі апынуліся пасярэдзіне моста, дык з процілеглага боку ўкацілася запрэжка. На фуры сядзеў адзінокі возчык. Наравісты жарабец рваў уперад. Учыніўся закалот. Фурманкам неяк было размінуцца. Мужыкі паставілі тады набок пустую запрэжку вазака. На галаву жарабца накінулі пінжак. Такім чынам загружаная фура з цяжарнай Сафіяй пракаўзнулася побач. У час падарожжа на Украіне нарадзілася Марыя, мая другая сястрыца...

Вярнуўшыся з бежанства, засталі дом у ненарушаным стане. Неапрацоўванае поле парасло арэшкам. Нашу 16-гектаровую гаспадарку раздзялілі паміж чатырох братоў па роўных частках. Кожны дагледаў свой участак. Я нарадзілася ў 1923 годзе. Затым на свет прыйшлі Вера, Ніна, Жэня і Коля.

У Орлі жыд Вайнштэйн меў кафлярню. Патрабаваў возчыкаў. Па рэкамендацыі швагра бацькі Сцяпана Стасюка і дамове з жыдам Валодзя Гвязда арганізаваў брыгаду вазакоў. Гэта былі Барыс Баршчэўскі, Сцяпан Стасюк, Харытон Стасюк, Юзік Сноп і наш бацька Яўфім Цэтра. Кафлі вазілі з Орлі ў Рыгораўцы, часам у Бельск. Назад фуры загружалі палівай. Вазакам добра плацілі. Нядрэнна жылося. Памятаю, што ў дзяцінстве ласавалася абаранкамі...

У Грузкім засталася сястра матулі Ксеня. Выйшла замуж за Андрэя. У іх нарадзілася двое дзетак — Оля і Міша. Мая хрышчона Анастасія Стасюк пасля перадала іхні адрас. Будучы падлеткам, я вяла перапіску з Оляй. Сваячка пісала, што пасля смерці Леніна, калі настаў Сталін, дык жыццё стала кашмарам. Пачаліся забойствы і рэпрэсіі. Сталінская палітыка — народная калектывізацыя, раскулачванне багацеяў... Усе павінны быць роўнымі. Застаўлялі затым запісвацца ў калгасы. Ніхто не супраціўляўся. З паваеннага часу захавалася песня:

*Собирались казаченьки,*
*Собирались на заре,*
*Думу думали большую,*
*На колхозном на дворе.*
*Если б нам теперь, ребята,*
*В гости Сталина позвать,*
*Чтобы Сталину родному*
*Все богатства показать...*

Столькі захавалася ў маёй памяці пра бежанства, — канстатуе мая субяседніца. — Не прыйшлося мне гэтага пачуць ад бацькоў. Гісторыю пашкоўскіх бежанцаў расказаў мне светлай памяці Іван Стасюк, сын Харытона, навочны сведка мінулага. А я гэты ўспамін захоўваю як святую рэліквію, — завяршыла аповед Надзея Сахарчук.

**Запісаў Уладзімір СІДАРУК**




# http://www.polotskmuzey.vitebsk.by

Старажытны беларускі Полацк па яго значэнні для беларусаў можна параўноўваць з тым, чым у культурніцкім плане для ўсяго свету з'яўляюцца Парыж, Рым, Кракаў і іншыя сусветныя гарады-шэдэўры. Пэўна, нездарма так склалася наша гісторыя, што менавіта ў Полацку жылі свяціцелька Еўфрасіння і першдрукар Францыск Скарына, там месціцца адзін з трох усходнеславянскіх сабораў у гонар святой Сафіі. Нягледзячы на тое, што сённяшні Полацк з большага мае прамысловае значэнне, яго гістарычна-культурніцкі складнік для свядомасці беларусаў не меркне. І гэтаму, натуральна, спрыяюць музеі, якіх, як і належыць старажытнаму, хоць і не вялікаму гораду, не адзін ці два, а больш за дзясятак.

Каб упэўніцца ў тым, што жыхары Полацка здольныя захоўваць найкарыснейшую для беларускай свядомасці спадчыну, варта зазірнуць на афіцыйны сайт Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.polotskmuzey.vitebsk.by.** Перад намі адкрыецца даволі спакойная па колерах і нават крыху бляклаватая выява стартавай старонкі, дзе знаходзяцца здымкі полацкіх цэркваў і раскрытай старадаўняй кнігі. Там нам адразу прапануюцца, прычым па-англійску, тры моўныя версіі — руская, беларуская і англійская.

На першай старонцы ўладальнікі сайта не даюць нам аніякай інфармацыі, затое паведамляюць наступнае: «Мы любім наш Полацк і жадаем падзяліцца з вамі гэтай любоўю». Такое красамоўнае прызнанне ў любові да горада нячаста сустрэнеш не тое што на музейных сайтах, але і на сайтах, дзе распавядаецца пра цэлыя гарады.

З левага боку выяўлення знаходзяцца выйсці на іншыя старонкі. У першым выйсці «Музеі» мы можам даведацца пра музеі, якія існуюць у Полацку. Сярод іх — Музей гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора, Музей беларускага кнігадрукавання, Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага, Прыродна-экалагічны музей і нават Дзіцячы музей.

Даволі цікавай была гісторыя ўзнікнення музея-запаведніка, якая пачалася за савецкім бязбожным часам. Камуністы меркавалі зрабіць з Полацкай Сафіі музей атэізму.

«Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік пачаў фарміравацца ў верасні 1967 года. У 1968 годзе з'явілася «Палажэнне аб гісторыка-археалагічных запаведніках». 20 лістапада Полацкі гарадскі савет дэпутатаў прыняў Пастанову аб ахоўнай зоне вакол Сафійскага сабора. (...) Пачынаючы з 1967 года, сталі складвацца ўмовы для даследавання, рэстаўрацыі і музеефікацыі помнікаў архітэктуры і археалогіі. У 1969 годзе пачалася рэстаўрацыя Сафійскага сабора, дзе планавалася адкрыццё музея атэізму. Але музей атэізму перавялі ў Гродна, а запаведніку ў 1985 годзе быў наданы статус самастойнага музейнага аб'яднання, філіялам якога стаў Полацкі краязнаўчы музей. У 1990 годзе была прынята пастанова «Аб Полацкім гісторыка-культурным запаведніку» і зацверджана Палажэнне «Аб полацкім гісторыка-культурным запаведніку рэспубліканскага значэння», — распавядаецца на старонцы «Гісторыя».

Калі праглядаць іншыя старонкі сайта, такія як «Выстаўкі», «Фестывалі», «Канферэнцыі», то карыстальніка засмуціць, што ўжо вельмі даўно яны не абнаўляліся. Зразумела, сайт нават вялікай колькасці музеяў не мусіць абнаўляцца як сайт штодзённых навін, але наўрад ці ад 2006 года ў Полацку не праходзілі мерапрыемствы гісторыка-культурніцкай накіраванасці, да якіх не меў бы аніякага дачынення даны музей-запаведнік. Таму любоў да Полацка, якой хочуць з намі падзяліцца супрацоўнікі тамтэйшых музеяў, можа застацца толькі з імі, калі яны не адродзяць абнаўлення свайго інтэрнэт-прадстаўніцтва.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

„Вандравала ліхое гора”

# 110 гадоў з дня нараджэння Алеся ДУДАРА



Беларускі паэт, перакладнік і літаратурны крытык Алесь Дудар (сапраўднае прозвішча Аляксандр Дайлідовіч) нарадзіўся 24 снежня 1904 г. у вёсцы Навасёлкі Мазырскага павета Мінскай губерні (цяперашні Петрыкаўскі раён Гомельскай вобласці).

Паходзіў з сям'і беззямельнага селяніна. У час Першай сусветнай вайны Дайлідовічы знаходзіліся ў бежанстве. Выязджалі ў Тамбоўскую вобласць (у горад Казлоў, цяпер Мічурынск). Вясной 1917 г. сям'я вярнулася ў Беларусь.

Пасля сканчэння ў 1921 г. сярэдняй школы (па іншых біяграфічных звестках — сямігодкі) Алесь Дудар уступіў у тэатральную трупу Уладзіслава Галубка. У 1923 г. — адзін з заснавальнікаў мінскай, віцебскай і полацкай філій культавага літаратурнага згуртавання таго часу „Маладняк”. У 1927-1928 гг. вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ. У выніку кампаніі супраць беларускіх пісьменнікаў-студэнтаў быў змушаны пакінуць універсітэт. У снежні 1927 г. выйшаў з „Маладняка” і далучыўся да новага аб'яднання „Полымя”.

За верш „Пасеклі наш край папалам...” Алесь Дудар быў арыштаваны ДПУ ў сакавіку 1929 г., высланы на тры гады ў Смаленск. Зноў арыштаваны ў Смаленску ў ліпені 1930 г. і прывезены ў Мінск на допыты па справе „Саюза вызвалення Беларусі”. У 1931 г. зноў у Смаленску. Пасля сканчэння тэрміну высылкі вярнуўся ў Мінск. Быў сябрам Саюза пісьменнікаў БССР. У 1935-1936 гг. займаўся пераважна перакладамі. Трэці раз арыштаваны ў кастрычніку 1936 г. у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД як „член антысавецкай аб'яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі” да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці. У ноч на 29 кастрычніка 1937 г. у ліку 22 беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў быў расстраляны.

Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР у 1957 г. Асабістая справа Алеся Дудара захоўваецца ў архіве КГБ. Помнікаў літаратару ў сённяшняй Беларусі няма.

Як паэт Дудар дэбютаваў вершам у 1921 г. у газеце „Савецкая Беларусь”. Аўтар зборнікаў паэзіі „Беларусь бунтарская” (1925), „Сонечнымі сцежкамі” (1925), „І залацістых, і сталёвей” (1926), „Вежа” (1928), паэмы „Шанхайскі шоўк” (1926), „Слуцак” (1935), зборніка апавяданняў „Марсельеза” (1927). Разам з А. Александровічам і А. Вольным напісаў раман „Ваўчаняты” (1925). Выступаў таксама як крытык. У 1959 г. выйшлі „Выбраныя творы”, у 1984 г. — зборнік вершаў і паэмаў „Вежа”. Пад псеўданімам Т. Глыбоцкі выдаў зборнік артыкулаў „Пра літаратурныя справы” (1928). Перакладаў з рускай, нямецкай, французскай моў. Пераклаў некаторыя творы Пушкіна, Блока, урыўкі з „Фаўста” Гётэ, Ясеніна, Пастарнака, Ціханава, Гейнэ, Вайнерта і іншых.

У 2005 г. у серыі „Беларуская паэзія XX стагоддзя” выйшаў зборнічак вершаў 15 айчынных паэтаў, што былі загублены нечалавечай савецкай сістэмай у жудасных трыццатых гадах. У ім змешчаны і дванаццаць вершаў Алеся Дудара. У адным з іх такія радкі:

*„Не сягоння было і не ўчора...*
*Ой, ды з раніцы плакалі гуслі...*
*Вандравала ліхое гора,*
*Вандравала ў палёх Беларусі”.*

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Смакі дзяцінства

**За медыямі Іаланта Гудалеўская не прападае. У свой час надта імі расчаравалася. Гэта яе першае інтэрв'ю ў новым тэрміне паўнамоцтваў на пасадзе бургамістра Крынак.**

Іаланта — адна з дзвюх жанчын-бургамістраў у Сакольскім павеце. Па прафесіі настаўніца матэматыкі і інфарматыкі, а пры сваім папярэдніку Багуславе Панасюку працавала ў крынскім прадшколлі.

— Дазвольце павіншаваць Вас з выбарчай перамогай! Ці лічыце, што Вашыя мары збыліся?

— Я з дзяцінства хацела стаць настаўніцай. Усе мае думкі і гульні былі звязаны менавіта са школай і адукацыяй. Так і атрымалася. Гэта ў асноўным заслуга старэйшай на некалькі гадоў сяброўкі, якая заўсёды верыла ў мае настаўніцкія схільнасці і пераконвала, што няма на свеце лепшай прафесіі. Са школай, у маім выпадку, звязаны выключна пазітыўныя асацыяцыі. Ніколі не адчувала я цяжкасцей ні з вучобай, ні з настаўнікамі. Гэта тычыцца маёй усёй адукацыйнай дарогі. Са школьных «вывядовак» мой бацька заўсёды вяртаўся гордым і шчаслівым. Ведаю, што бываюць канфлікты паміж вучнямі і настаўнікамі, але віна заўсёды ляжыць па абодвух баках. Мне асабіста проста пашанцавала.


Іаланта Гудалеўская

— Якой была Ваша бацькоўская хата?

— Я нарадзілася 50 гадоў таму ў вёсцы Любешчы пад Браньскам. Бацькі працавалі на невялікай гаспадарцы. Апрача мяне выхавалі яшчэ тры мае сястры і брата які, на жаль, памёр. Бацькі таксама ўжо адышлі. Па-мойму, яны былі вельмі добрымі бацькамі, — мая субяседніца не можа стрымаць слёз. — Цёпла ўспамінаю сваё дзяцінства, — стараецца вярнуцца да размовы, — але мне цяжка пра гэта гаварыць. Гэта быў дом, у якім пяклі хлеб, дом з вялікай пашанай да традыцый. Думаю, што ў роднай хаце, усётакі, найважнейшае цяпло. Калі жывеш тым цяплом штодзень, не заўважаеш яго. Цяпер, з перспектывы часу, усё выглядае інакш. З кожным годам успаміны пра бацькоў мацней мяне хвалююць. У першых гадах пасля іх смерці я не магла да канца паверыць, што іх ужо няма. Жывучы тут, у Крынках, мне здавалася, што яны надалей чакаюць мяне на свята, што, як заўсёды, гатовы падтрымаць у бядзе.

— Вашае Божае Нараджэнне...

— У дзяцінстве найбольш мяне цікавілі ёлка і падарункі. Дрэўца заўсёды прыносіў бацька не раней як у дзень вігіліі. На ім мы вешалі сапраўдныя, каляровыя свечкі, анёльскі волас і шмат цукерак. Ведома, у крызісных васьмідзясятых гадах трэба было абысціся без цукерак.

Вігілійны стол тата накрываў вялікай порцыяй сена, якое пасля вячэры аддаваў каровам. У сене, пад белым абрусам, скрываліся святочныя падарункі. Я верыла, што святы Мікалай пакідаў іх менавіта там. Падаркаў шукалі мы пасля заканчэння вячэры. Гэта былі сімвалічныя дробязі. Часта здаралася так, што канкрэтная рэч не пападалася таму, каму трэба і даходзіла да сварак. Аднойчы выцягнула я каробачку з жаўнерыкамі, якія павінен атрымаць мой брат. Яны мне так спадабаліся, што я плакала і не хацела яму аддаць. У такіх сітуацыях апошняе слова належала бацькам. Гэта была добрая, але на жаль беспаваротна страчана гульня, так як страчанай з'яўляецца раўнавага паміж формай і зместам самых святаў.

Калі ідзе пра ежу, тады ніхто не пільнаваў колькасці вігілійных страў. Ці было іх больш ці менш залежала ад заможнасці гаспадароў. Цяпер касцёл дазваляе на спажыванне няпоснай вячэры. Я ўсё-такі прытрымліваюся посту. Ніякіх малочных прадуктаў ці яек, усё на алеі і вадзе. Я прыхільніца вернасці традыцыям, вынесеным з роднай хаты і ў такім духу выхавала сваіх дачок. Усе вігілійныя стравы мне смачныя за выключэннем аўсянага кісялю, заліванага кампотам з сушаных яблык і грушак, званага ў нас грушэўнікам. Ажно губы скрыўляла ад гэтай кіслаты. Затое вельмі люблю вігілійны бігас з квашанай капусты з сушанымі баравікамі, прыпраўлены алеем, соллю і перцам. Не магу абысціся без смажаных у цесце цэлых галовак сушаных баравікоў.

— А што скажаце накont крынскага вігілійнага стала?

— У Крынках я ўпершыню сустрэлася з куццёй, якая мне адразу спадабалася. У нашым наваколлі пра такую страву ніхто не чуў. Замест таго мама варыла посныя хатнія макароны з макам званыя «рэзанкай». У нашай хаце ніколі не было таксама папулярнага ў Крынках рыбнага халадцу, якім аб'ядаюцца мае дзеці і муж. Я больш прывыкла да карпа, абсмажанага ў цесце, да смакаў дзяцінства.

— Калі Вас пытаюць: — Адкуль Вы?

— Заўсёды адказваю: — З-пад Браньска.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

3 ☞ працяг

# XVII БЯЗМЕЖЖА...

нем тэкстаў знакамітых выканаўцаў працавалі былі музыканты, літаратары і перакладчыкі Юры Несцярэнка, Марыя Мартысевіч, Раман Яраш, Уладзімір Дрындрожык, Вольга Гронская, Сяргей Балахонаў. Арцём Сітнікаў узнагароджаны быў у Беларусі таксама за лепшае выкананне песні на словы Янкі Купалы. Не толькі беларуская песня спадарожнічала літаратурнаму фэсту. Пры спевах у выкананні Ганны Кандрацюк ствараліся адмысловыя дуэты і большыя гурты з кампаніі на працягу багатага, згушчанага бязмежнага часу. Дыскусіі працягваліся далёка ў ноч пад пошум акрыяўшых ад марозу дрэў падпушчанскіх узлескаў вакол хутара Лазовае.

Наступны літаратурны год шмат у чым будзе прысвечаны стагоддзю бежанства 1915 года. Выйдуць кнігі, будуць здымацца фільмы, праводзіцца навуковыя семінары. «Ніва» выпусціла насценны каляндар, прысвечаны гэтым трагічным падзеям, якія выгналі таксама тутэйшых беларусаў у далёкае замежжа пад гук выстралаў, але не вырвалі іх з каранёў. Жывыя вярнуліся на сваё месца.

XVII «Бязмежжа» адбылося дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі і Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Адгаданка

1. хімічны элемент н-р 92, 2. нешчаслівец, 3. армеец, 4. напой грэчаскіх багоў, 5. праліў між Мармуровым і Міжземным марамі, 6. Сальвадор, іспанскі сюррэаліст, 7. пара ўборкі сена, 8. тонкае ліставое жалеза, 9. ізаляваная вязка правадоў для перадачы электратоку, 10. брус у ніжняй часткі дзвярнога праёму.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |
| | | 1 | | | 2 | | | | 3 | | |
| | | 4 | | | | | | | 5 | | |
| | | | | | 6 | | | | | | 7 |
| 8 | 9 | | | | 10 | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Ака, жыжа, моц, неба, сон, урна, Ясь.

Рашэнне: **Усенька можна, абы асцярожна**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксею Туру** з Саколкі і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 28.12 — 03.01

**(22.03. — 20.04.)** Пазбягай вялікага напружання і не рабі больш, чым можаш, і не гавары больш, чым табе вядома. У першай палове тыдня чакаюць самыя звычайныя працоўныя будні. Серада: не купляй сёння нажоў і відэльцаў. Чацвер: выбухі тваёй жарсці могуць выклікаць непаразуменне ў другой паловы. У пятніцу для цябе і тваіх блізкіх адкрываюцца спрыяльныя перспектывы.

**(21.04. — 21.05.)** Чакаюць шматлікія ўсялякія сюрпрызы. Рыхтуйся да сустрэч з новымі людзьмі. Можаш апынуцца ў цэнтры ўвагі. Выяўляй у справах больш гнуткасці, ідзі. Не пакідай на гэтым тыдні няскончаных спраў, бо сутыкнешся з сур'ёзнымі праблемамі. Набудзеш каштоўную інфармацыю, слухай і назірай. Праяві дыпламатычнасць, каб дамагчыся ажыццяўлення планаў.

**(22.05. — 22.06.)** Усе падзеі, якія будуць адбывацца з табою, павінны быць падвергнуты грунтоўнаму аналізу. Разгледзь сітуацыю з усіх бакоў. Не дазваляй пачуццям ствараць перашкоды ў прафесійнай дзейнасці — цяпер гэта будзе твая галоўная праблема. Панядзелак: не ўстаўляй сёння ў сваім доме дзвярэй і вокнаў, не ўрэзвай новых замкоў.

**(23.06. — 23.07.)** Не давай на гэтым тыдні неабдуманых абяцанняў і не патурай сваім жаданням. Будзь стрыманым — вельмі шмат будзе залежаць ад твайго ўмення трымаць сябе ў руках. Ненайлепшы час для прапановы рукі і сэрца, а таксама для заключэння якіх-небудзь аб'яднанняў. Акладзі на потым рашэнні наконт асабістага жыцця.

**(24.07. — 23.08.)** Прыйшоў час рэалізаваць старыя планы. На гэтым тыдні пачнуць вырашацца пытанні тваёй кар'еры, не ўпусці ўдалую магчымасць і праяві ініцыятыву. Кожнае супрацоўніцтва будзе вельмі выгадным. Чакаюць цябе новыя сустрэчы і раманы, таксама і на працы. Тое, што дапамагала табе на мінулым тыдні, зараз не спрацуе: неабходна знайсці новыя шляхі вырашэння гэтай праблемы.

**(24.08. — 23.09.)** На гэтым тыдні магчымыя нечаканыя фінансавыя страты: хутчэй за ўсё, па сямейных абставінах. Беражыся ад таго, што гучыць надта добра, каб быць сапраўдным. Выкарыстоўвай свае творчыя здольнасці, каб знайсці новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Акладзі службовую камандзіроўку і займіся добраўпарадкаваннем дома.

**(24.09. — 23.10.)** Выкарыстоўвай на максімум усе свае рэзервы і сілы, каб здабыць тое, што табе належыцца. Інвестыцыі, уласнасць, нерухомасць, страхаванне, падатковыя скідкі павінны прынесці прыбытак. Не абяцай лішняга.

**(24.10. — 22.11.)** Спатрэбіцца табе здаровы розум, каб адмовіцца ад вельмі прывабнай прапановы, якая на справе будзе накіраванай супраць цябе аферай або проста падманам. Не раскідвай на гэтым тыдні сваіх асабістых рэчаў: пошук зніклых прадметаў і дакументаў будзе беспаспяховым!

**(23.11. — 22.12.)** У пачатку гэтага тыдня (да серады) для цябе будуць прыняты сапраўды лёсавызначальныя рашэнні, якія вызначаць тваё жыццё на бліжэйшыя месяцы і нават гады. Адкрый усе вокны і дзверы для новых магчымасцей і падзей і будзь упэўненым, што яны абавязкова прыйдуць. Можаш смела звяртацца ў дзяржаўныя ўстановы. Зможаш там знайсці для сябе выгаду ў любых справах.

**(23.12. — 20.01.)** Табе варта быць вельмі ўважлівым, каб не здзейсніць элементарную памылку, што прынясе фінансавыя страты. Звярніся да эксперта ў да дзелавой або персанальнай парады. Не спрабуй вырашыць што-небудзь сам, не з'яўляючыся спецыялістам у якой-небудзь сур'ёзнай справе. Панядзелак: вельмі верагодна, што тыдзень пачнецца з канфлікту. Аўторак — добры дзень для зачацця дзіцяці.

**(21.01. — 19.02.)** Мінулае зноў нагадае табе пра сябе: дадуць пра сябе ведаць даўно забытыя падзеі, і, магчыма, сустрэнешся са старымі даўнімі знаёмымі. Не грэбуй сваімі абавязкамі: тое, што абяцаў, павінна быць выканана. Твае адносіны з каханым чалавекам могуць зараз апынуцца пад пагрозай: хтосьці з вас прыме канчатковае рашэнне аб расстанні?

**(20.02. — 21.03.)** 27-29.12. зрэалізуеш свае планы і возьмеш пад кантроль важныя для цябе справы. Добры час для набыцця новых ведаў і вопыту: наведай якія-небудзь курсы і семінары. Новыя сувязі з дзелавымі партнёрамі могуць аказацца вельмі моцнымі. У панядзелак нікога не прысвячай у свае сакрэтныя планы і нікога не дапускай да сваіх таямніц, нават блізкіх. Вельмі ўдалая купля ў аўторак.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Украіна у цяні вайны (14)







На першы погляд горад Мукачава здаваўся скамунікаваным па-еўрапейску горадам. Непасрэдна на аўтобусе можна дабрацца ў славацкія Кошыцы і Міхалоўцы, у венгерскі Ніірэдзьхаза (Nyíregyháza) і ў польскі Валовец. Апошняя звестка падалася загадкавай, паколькі вядомасць гэтай мясціны хутчэй за ўсё мае літаратурны характар, то-бок, расславіў яе славуты пісьменнік Анджэй Стасюк і яго выдавецтва Czarne. Аўтобуснае спалучэнне таксама аказалася больш „літаратурным”, чым рэальным. Спачатку мы загарэліся, каб ехаць адразу праз Славакію ў Валовец, аднак на вакзале ніхто не ўмеў сказаць калі будзе адпраўляцца аўтобус. Замест інфармацыі мы пачулі нешта накшталт:

— Ад'едзе, калі прыйдзе на гэта час!

Сказаць, што на аўтавакзале ў Мукачаве панавала славянская разлезласць, было б недарэчнасцю і яўнай ігнаранцыяй. Калі мы злезлі з аўтобуса, нас адразу акружылі дзелавыя дзядзькі і цёткі з адным пытаннем:

— Ці ёсць у вас долары?

Хоць у публічнай прасторы ўкраінцы дэманстравалі спакой і зразуменне для коштаў і патрат звязаных з вайной, у наваколлі банкаў і абменнікаў валюты прыкмячалася нешта накшталт псіхалагічнай ліхаманкі. Усе хацелі памяняць грыўны, якія падалі літаральна з дня на дзень. У першы дзень нашай пабыўкі долар каштаваў адзінаццаць тысяч грывень, цягам наступных пяці дзён ён падаражэў на тры тысячы. Гасіць пажар на валютным рынку ўзяўся сам прэм'ер-міністр Яцанюк, які апанаваным тонам паўтараў па тэлебачанні:

— Долар не можа перасячы мяжы 12 тысяч грывень!

У падобным тоне ўкраінскае тэлебачанне інфармавала пра падзеі на фронце:

— Нашыя салдаты здабылі два танкі, забілі 25 тэрарыстаў, — гаварыў спакойным тонам ваенны прэс-сакратар, — патрат не было.

У Мукачаве пускалі між вушы такія навіны і камунікаты. Мы таксама замест патрат з кожным абменам валюты багацелі і набівалі кашалькі.

* * *

На месцы разбіліся іншыя нашыя спадзяванні. Калі раней мы прыязджалі ў Закарпатыю, усе мясцовыя адпраўляліся ў Мукачава на фестываль каляднных абрадаў „Вэртэп” і дармовую дэгустацыю віна з мясцовых вінаграднікаў. Свята пачыналася ўжо ў другой палове студзеня і цягнулася да канца карнавалу. Зараз, калі мы спыталі пра фестывалі і гульбішчы, дзяўчына з адміністрацыі гасцініцы „Барва” толькі паціснула плячыма:

— Як дажывем да студзеня, тады пабачым...

Вырошчванне вінаграду і вытворчасць віна, нягледзячы на крызіс у краіне, моцна назначыла краявід і менталітэт. Ля кожнай хаты, на задбаных панадворках з альтанкамі, дзе не глянь парастаў вінаграднік. Таксама шырокія ўзгорыстыя палеткі за горадам былі абсаджаны вінаградам і слівамі. Мукачава (венг.: Munkács) у межах Украіны апынулася толькі ў 1944 годзе. Цягам адзінаццаці стагоддзяў горад прыналежыў Венгрыі, пасля Аўстрыі, з 1919 па 1939 год — Чэхаславакіі. Уезд у горад з боку Ужгарада — пазначаны стромкай, напамінаючай вулкан, гарой з замкам. Замак Паланок (Var Palanok) быў пабудаваны ў чатырнаццатым стагоддзі як абарончая крэпасць камітата Берг. Пры аўстрыйскім панаванні, калі ў 1787 годзе зрабілі там турму, за кратамі апынуўся Шандар Пецёфі (Sándor Petőfi), народны паэт Венгрыі.

Ды трэба сказаць, што паэты і літаратары густа і часта суправаджалі нас у гэтым гуляш-вінным кутку Закарпатыі. У старажытным Хусце мы наткнуліся на чалавека, капля ў каплю падобнага на Сакрата Яновіча. Двайнік крынскага літаратара, што не здзіўляла, аказаўся крутым шафёрам аўтобуса. У Мукачаве мы вандравалі па вуліцы Сяргея Ясеніна, а пасля адпачывалі ў модным „Тракціры” па вуліцы Аляксандра Пушкіна, непадалёк помніка балгарскім прапаведнікам Кірылу і Мяфодзію.

* * *

Ужо ў пачатку вандроўкі мы сустрэлі добрага балгарына, які на акраінах Беластока падабраў нас на аўтаспын і давёз у прыкарпацкі Жэшаў. Мядзёлка вяртаўся з Латвіі, куды на сваёй аўтафуры „Фенікс” даставіў транспарт балгарскай мінералкі. Наш балгарын аказаўся русафілам і славянафілам, ды ніяк не мог зразумець украінска-расейскай вайны:

— Мы ж славяне, усе як родныя браты, — паўтараў.

Мядзёлка на дадатак не любіў еўрасаюзных парадкаў і дзіка настальгаваў па сацыялізме. За сваю працу шафёра аўтафуры атрымліваў зарплату ў паўтары тысячы еўра:

— Але што з гэтага, — наракаў, — за гэтыя грошы трэба пракарміць жонку і сынаву сям'ю з паркай дзетак.

Яшчэ больш хвалявала яго карупцыя.

— У нас афармляецца ўсё за хабары, — даказваў відавочна ажыўлены. — Як не памажаш, дык не паедзеш...

Паміж нараканнямі на Еўрасаюз Мядзёлка распавядаў нам пра балгарскія залатыя пляжы і фэсты ў гонар віна і вінаграду. Намаўляў ехаць у яго гарадок, дзе чакалі нас дармовы начлег, гасціна і вясёлы адпачынак. Неверагодная прапанова і сардэчнасць, якую мы адчувалі ад пачатку знаёмства, выплывала са шчырага сэрца і... праваслаўнага братэрства. Мядзёлка, хоць сам падабраў нас з дарогі як сіротак, паводзіў сябе як наш слуга, а мы пры ім адчувалі сябе як каралевы...

Усё, што абяцаў нам Мядзёка ў сваёй залатой Балгарыі, мы сустрэлі ў суботні вечар якраз у Мукачаве. Хоць да фестывалю віна заставалася яшчэ некалькі месяцаў, у горадзе балявалі.

* * *

Адвячоркам у рэстаранах і кавярнях усцяж галоўнай вуліцы — праспекту Міру — усюды спраўлялі вяселлі. Смех, піск і музыка даносіліся з глыбі панадворкаў, дзе гасцявалі ў спецыяльных палатках. У наваколлі помніка Кірылу і Мяфодзію тусавалася моладзь. Модныя піцэрыі і кафэ-бары былі набітыя да апошняга месца. Нам пашанцавала прысесці ў кафэ-рэстаране „Тракцір”. Замест расейскай забягалаўкі з п'яным Ясеніным — як абяцала назва, нас прывітаў „парыж” у эстэтычным плане. Стройныя афіцыянты больш напаміналі мадэляў з модных журналаў, чым сваіх калег з Цячава. Сярод сцішанай музыкі, за нармальныя грошы, прапанавалі смачную яду і чэшскае піва. Афіцыянт, пачуўшы падляшскую мову, чамусьці аўтаматам перайшоў на славацкую. Калі мы спыталі пра фестываль віна, ён толькі махнуў рукой...

Ды ўся тая радасць і вяселлі, што адбываліся навакол, падказвалі, што зараз важная часовасць. Узяць з жыцця тое, што магчыма, пакахацца, прагуляць усе грошы, якія і так неўзабаве страцяць сваю вартасць...

Пасля, калі мы вярталіся ў гатэль, ля помніка Кірылу і Мяфодзію моладзь проста з буталя распівала віно і весела спявала „Нэсэ Галя воду”:

— Не трэба ехаць у Балгарыю, — пракаментавала Д., — хопіць у Мукачава.

Свет думаў інакш. У самым прэстыжным гатэлі „Стар” святло гарэла толькі ў адным акне.

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960